# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1969
Верасень-
Кастрычнік

Год XVII
№ 5 (116)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1968 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.

У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.

У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

У Аўстраліі:

Mr. M. Nikan, 14 Steel Str., Spotswood — Melbourne, Vic. 14, Australia.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.


ON GOD'S HIGHWAY

Year XVII September—October № 5 (116)
1969

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE, LONDON, N. 12.
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год XVII | ВЕРАСЕНЬ—КАСТРЫЧНІК | № 5 (116)

*Мікола Гусоўскі*

## „...Дзева Марыя, не пакідай нас...“

*Боская Маці, прачыстая Дзева Марыя,*
*Чуеш імя сваё ў песьні і бачыш, напэўна,*
*Як затрымцела ад страху рука*
*[вершатворцы?*
*Раб твой пакорлівы слёзную гэту малітву*
*Шле да цябе, баючыся: а можа ня прымеш?*
*Можа маўчаць і цярпець? Я ў душы адчуваю:*
*Вартая ты не малітвы раба, а хаҏалу*
*Цэлага сьвету зямнога — людзей і*
*[стварэньняў —*
*І велічаньня, і славы Ты варта таксама.*
*Я ж ці знайду і ці вымаўлю вуснамі ўзнёсла*
*Слова-зваротак, твою не прынізіўшы*
*[годнасьць.*
*Знаю, што ты міласэрная, добрая Маці —*
*Ты мне даруеш, і я з васкавою свячою*
*Перад табою, святой Багародзіцай, кленчу.*
*Бледны, прыгнечаны ношай грахоў сваіх*
*[цяжкіх,*
*Вусень-чарвяк падбірае будзённыя словы*
*Ў гэта маленьне і шчэ спадзяецца, што*
*[зможа*
*Вымаліць краю Твайю абарону-спагаду.*
*О, заступіся за нас! Праз любоў к Чалавеку*
*Бацька наш Бог і абраў цябе сам, і паставіў*
*Першай заступніцай люду, і Ты заступіся.*
*Як птушаняты ў нягоду пад матчына*
*[крыльле,*
*Так пад Тваю абарону і мы уцякаем.*
*Хай хто пакрыўдзіць дзіця, і малое заплача —*
*Маці ж прыгорне крывінку сваю і*
*[суцешыць.*
*Ты — наша маці-заступніца, мы — твае дзеці,*
*Крыўдзяць, цкуюць нас і ганьбяць — утры*
*[нашы сьлёзы*
*О, міласэрная ўцешніца, Дзева Марыя,*
*Не пакідай нас, прымі гэту скаргу-малітву.*
*Кінь свой спагадлівы позірк на нашы*
*[палеткі —*
*Гоні і ляды, што скрозь здратаваны і зьбіты*
*Коньмі татарскімі, коламі іхніх абозаў.*
*Бачыш, якія бясчынствы дазволены лёсам*
*Ворагу нашаму? Сёньня страшэнныя здзекі*
*Чыніць ён з нас, хрысьціян, што адзінае*
*[веры*
*З Сынам Тваім, міралюбных і прагнучых*
*[міру!*
*Нашым князям, што ў сваіх міжусобіцах*
*[розум*
*Нашай крывёй замуцілі, падай на пахмельле*
*Мысьляў і ўчынкаў цьвярозасьць, вярні*
*[раўнавагу*
*Мудрых дзяржаўцаў, напомні пра іх абавязкі,*
*Гэтак злачынна забытыя, — карай напомні!*
*Сьвет вар'яцее, і ўсе яны ў гэтым вар'яцтве*
*Шкуру ягня накідаюць на воўчыя ляпы.*
*Ім без твайго настаўленьня, прамудрая Дзева,*
*Думка ня прыйдзе, што трэба за розум*
*[узяцца.*
*Дзе ім убачыць з харомаў, як з хатак*
*[вясковых*
*Гоняць бічамі галоту ў палон на пакуты!*
*Стань загародай на бітых шляхах і гасцінцах,*
*Вартай памежнай між воляй народаў і*
*[рабствам,*
*Час не чакае, бо тысячы душаў нявінных*
*Гінуць пры кожным уздыху ліхіх*
*[супастатаў.*
*Папскі прастол Адрыяна і сьвет хрысьціян-*
*[ства*
*Заклікам боскім згуртуй, апалчы супраць*
*[турак.*
*Хай накіруюць па ветры свае каравелы*
*І перахопяць мячы, што варожасцю ўзняты.*
*Хай гэты сьвет пад харугвамі боскае волі*
*Вочы пратрэ і сьляпым, і дурным і пакажа,*
*Дзе небасьпека і сьмерць. І няхай вінаватых*
*Так пакарае няўмольнаю ўладай закона,*
*Каб пасьлядоўнік, стырна не ўпускаючы*
*[ўлады,*
*Нашую зброю скрыжоўваў са зброяй*
*[варожай*
*Толькі за праўду, са шчырай аддансьцю*
*[справе*
*Мужа дзяржаўнага вёў каравелу дзяржавы*
*Курсам рашучым праз буры і хаос сусьветны!*

---

УВАГА: З паэмы «Песьня пра зубра», якая ў лацінскім арыгінале выйшла з друку ў Кракаве ў 1523 г.

Пераклаў Язэп Семяжон. (ПОЛЫМЯ, чэрвень 1969).

*а. М. Урбановіч*

# Літанія да Найсв. Сэрца Збавіцеля

Пра чалавека добрага і шчырага кажуць: — Гэта душа-чалавек! — А калі хочам яшчэ больш яго пахваліць, кажам: — Гэта — залатое сэрца!—

Мы пад словам сэрца разумеем ня той мяшочак крыві, які пампуе-пераганяе кроў па ўсім целе, але гэтым азначаем вартасьць чалавека, што ён плянаваў зрабіць у жыцьці і што сапраўды выканаў, асабліва, што перацярпеў.

На такім паняцьці сэрца збудавана набажэнства да Найсьвяцейшага Сэрца Хрыстовага і гэта спэцыяльна выказана ў цудоўнай ЛІТАНІІ.

«Літанія» — слова грэцкае — «літанэйя» і значыць — «упрашальная, настойлівая малітва».

Як і іншыя літаніі і гэтая літанія да Сэрца Збавіцеля пачынаецца грэцкімі просьбамі: «Кірые, элейсон!», «Хрыстэ, елейсон!» Пане-Госпадзе, зьмілуйся-зжалься!» Так зьвяртаемся да Другое Асобы Сьвятой Тройцы, Ісуса Хрыста, каб аказаў, як Збавіцель, сваю добрасьць і ласкавасьць для нас грэшных. І яшчэ раз клічам у Хрыста ласкавасьці, калі паўтараем: «Хрыстэ, услыш нас! Хрыстэ, паслухай нас!»

Тады зьвяртаемся да кожнае Асобы Сьвятой Тройцы з той самай просьбай міласэрдзя «Зжалься над намі!»

Нарэшце, скончыўшы прыгатаваньне, прыступаем да самай Літаніі. Яна складаецца з 33-х клічаў да Збавіцеля — на памятку 33-х гадоў Хрыстовага жыцьця на зямлі і называем: «Сэрца Езуса!»

(Тут увага: Хрыстовае Імя кожны народ вымаўляе посвойму: італьянцы кажуць «Джэзу», французы — «Жэзю», англічане — «Джызас», гішпанцы — «Хэзус», па старa-жыдоўску — «Ешуа»; а праваслаўныя беларусы (з грэцкага) — «Ісус» і каталікі беларусы (з лацінскага) — «Езус». Дык як-жа будзе найлепей? А ўсё роўна, абы толькі пабожна маліцца!).

Першыя тры выклікі адносяцца да Езуса як Божага Сына і Сына Чалавечага — Найсьвяцейшае Дзевы Марыі. І з гэтага бачым, у якім Бязьмерным Маестаце б'ецца Хрыстовае Сэрца! Гэта — сапраўдны «Дом Божы» і «Прыбытак Найвышэйшага», і «Нябесная Брама». Значыць, у Ім прабывае Сам Бог — гэта ёсьць Божая Сьвятыня, а для нас шырока адчыненая Брама да неба.

У наступных трох просьбах гаворыцца пра гарачую любоў Хрыста да Бога і людзей, якой абыймае ўвесь сьвет, годны і нягодны. — Далей выказваюцца выдатныя цноты Хрыстовага Сэрца — справядлівасьць, добрасьць і любоў дый наагул Ён ёсьць «Глыбіня-Бяздоньне ўсялякіх цнотаў!», а таму ёсьць годны найвышэйшае хвалы.

І далей яшчэ: Хрыстос, як Валадар і цэнтр усіх сэрцаў, уключае ў Сябе ўсе скарбы-багацьце мудрасьці і веды, бо ў Ім прабывае ўся поўня боскасьці, а дзеля таго Нябесны Айцец «упадабаў Сабе» вельмі свайго Сына, Бога-Чалавека. А з гэтае «поўні боскасьці» мы бяром сабе ўсё найлепшае і на зямлі і ў небе, абы толькі, каб мы не тварылі сабе перашкоды сваімі грахамі!

Ды і то, калі ведаем, што «Хрыстос бязьмерна цярплівы і вялікага міласэрдзя» і што бязьмерна «шчодры для ўсіх, хто да Яго прыбягае, і што Ён ёсьць «Крыніца жыцьця і Сьвятасьці», дык мы, нават грэшнікі, знойдзем у Ім ласку Міласэрдзя!

Доказам гэтага ёсьць, як паказвае дальш літанія, усё тое, што выцярпеў дзеля грэшнага сьвету — аж да крыжа і сьмерці, што аж Сэрца Ягонае было «сьцертае дзеля нашых злачынстваў!» А Ён усё-ж — праз сваё паслушэнства Богу Айцу — стаўся «Крыніцай нашае радасьці»: устаў з памёршых, каб ажывіць нас, каб пагадзіць нас з Богам, каб стаць адплатай за грэшнікаў і стаць «надзеяй і збаўленьнем усіх, хто на Яго спадзяецца і ў Ім памірае».

Канчаецца Літанія тым, што называе «Сэрца Езуса — роскаш Усіх Сьвятых!»

Уканцы заклік: «Баранак Божы, што гладзіш грахі сьвету, адпусьці нам, паслухай і зжалься над намі (тройчы). І яшчэ просьба: «Езу, ціхі і пакорнага Сэрца, учыні нашае сэрца падобным да Твайго!»

Дадаецца малітва да Бога Айца, каб праз заслугі нашага Збавіцеля аказаў міласэрдзе нам грэшным.

*

Заўважым наканец, што ў братоў праваслаўных і ў каталікоў усходняга абраду адпаведнікам літаніі да Найсьвяцейшага Сэрца зьяўляецца акафіст да Найсалодшага Ісуса.

*Я. Савіцкі*

# 3-яя вайна — і — канец сьвету

У справе гэтага дыялёгу мы атрымалі ліст-крытыку і вельмі цяжкія закіды Сп. В. П. з Чыкага. Тут даём з гэтага ліста самыя моцныя выняткі і адказваем на закіды.

*

ЛІСТ

Спадар В. П. піша: «Названы нарыс я ўважна прачытаў і перадумаў. Ён мне не спадабаўся з многіх прынцыповых прычынаў . . . Манах Раман ходзіць па Лёндане ды ўступае з іншымі асобамі ў дыялёгі-дыспуты, але ня шукаючы жыцьцёвай праўды, а як аўтарскі ‚філязоф-разумнік'. Ён згары меў ўсе рэцэпты на грамадзкія немачы ды дае парады іншым, навагачвае на сваю ‚пацыфіскую веру' страхам ядзернае вайны й канцом сьвету, галосячы, што ўвесь сьвет зглузду зьехаў ды валіцца ў нямінучую катастрофу . . . Увесь сьвет дурны, якога быццам лёгка на свой лад перавярнуць, як манах Раман амаль мамэнтальна гэта робіць».

«Дый сам манах Раман як і ягоныя апанэнты — людзі здуманыя, — штучнае ўбранства для аўтарскай даволі наіўнай агітацыі. У гэтых пэрсанажах няма нічога людзкога, ні псыхікі, ні розуму чалавечага, ні індывідуальнага роздуму ў ацэне сьвету й грамадзкага жыцьця . . .»

*

ЗАЎВАГА: У гэты спосаб і ў яшчэ мацнейшых словах і насьмешках Сп. В. П. стыдзіць і брыдзіць Я. Савіцкага за ўвесь дыялёг: раўнуе Савіцкага да сэктантаў з іх прароцтвамі пра канец сьвету і г. д. На ўсё падобнае адказваць ня будзем, але дадзём выясьненьне асобных пазыцыяў.

*

АДКАЗ: Дыялёгі-дыспуты манаха Рамана, хоць наш крытык В. П. называе іх «здуманымі», зусім ня выдуманыя, але рэальныя і сапраўды ёсьць у Лёндане такі манах! А нават І-ы дыспут адбыўся пры сьведку добра ведамым нашаму крытыку. Пры адпаведнай дыскрэцыі аўтар Я. Савіцкі мог-бы назваць усіх дыспутантаў.

Прытым дыялёг напісаны спосабам фэльетону і таму аўтар ня ўглыбляецца ў навуковыя доказы таго, што і так ёсьць добра ведамае сучасным людзям. Калі-ж у дыспуце праціўнікі так лёгка ўступаюць і згаджаюцца з манахам Раманам, дык тут няма дзіва, бо сапраўды пагроза ядзернай вайны сталася такая рэчаісная і жахлівая, што немагчыма яе аспрэчваць.

Праўда, дужа разумна Спадар П. гаворыць аб Божым Провідзе і апецы над няшчасным сьветам. Аднак-жа людзі не павінны верыць сьлепа і фаталістычна. І Сам Хрыстос, калі прадказваў зьнішчэньне Ерузаліму і канец сьвету, дык асьцерагаў: «Гатовы будзьце!» — «Чувайце на ўсякі час і маліцеся, каб заслужыць на ўхіленьне ўсяго таго, што станецца». — Хрыстос даваў прытым практычныя рады: «Хай тады тыя, што ў Юдэі, бягуць у горы і хто ў месьце, выходзь з яго; а хто ў ваколіцах, ня ўваходзь у яго». (Лука 21, 21—36).

З гэтага прароцтва скарысталі першыя хрысьціяне: не замкнуліся з іншымі ў Ерузаліме, але паўцякалі за Мёртвае мора і так ацалелі. Аднак Самому Хрысту фарызэі прыпомнілі гэтыя словы аб зьнішчэньні гораду і сьвятыні і гэта была адна з прычын, што сынэдрыён асудзіў Хрыста на сьмерць. — І сьв. Сьцяпана дыякана ўкаменавалі за такое самае прароцтва; бо наагул людзі, якім добра паводзіцца, ня любяць няпрыемных заклікаў. (Апост. Дзеі 6, 12).

І яшчэ наш крытык В. П. тое разумна гаворыць, што «Страх не патрабуе памоцнікаў . . .»

На гэта адкажам: У нас ня йдзе справа пра панічны страх, ні пра забабонны сполах, ані пра «хворы пацыфізм», але пра развважны і асьцярожны т а к т у жыцьці: трэба загадзя ведаць пра ўсю пагрозу і небасьпеку дый тады рабіць талковы выснаў, разглядаючы падзеі сьвету з розных бакоў, каб знайсьці разумную раду. А перасьцярога ня ёсьць пустое пудзіла, якім страшаць дзяцей.

Калі ў І-ай частцы нашага дыялёгу мы паказвалі пагрозу 3-яе вайны, дык у ІІ-ой частцы будзем — разам з нашымі чытачамі — шукаць спосабаў хрысьціянскага пацыфізму, да якога ўсьцяж заклікае Павал VI-ы. І якраз таму (пару гадоў мінула) Папа лятаў у Нью Ёрк, каб апэляваць да прадстаўнікоў ўсяго сьвету, ў ААН і гаварыў аб патрэбе згоды ўсіх народаў. У гэтай прамове, якую прысутныя слухалі з вялікай увагай, а праз радыё і тэлевізію яе слухаў цэлы сьвет, Папа паўтарыў словы прэзыдэнта Джона Кеннэдзі: «Чалавецтва павінна палажыць канец войнам, бо інакш в о й н ы паложаць к а н е ц чалавецтву!»

Значыць, ці-ж можна кляйміць наш — хрысьціянскі — пацыфізм, як афішу Сталіна і Хрушчова?! Мы ўсе добра ведаем, якімі фальшывымі прарокамі міру былі кіраўнікі Саюзу, бо самі зброіліся здрадліва, а прытым падважалі згоду і бунтавалі народы сьвету адных супраць другіх, што твораць і дасюль.

А Каталіцкая Царква спаўняе навуку Хрыста: «Мір пакідаю вам, мір Мой даю вам: даю-ж вам ня так, як сьвет дае. Няхай ня сумлеваецца сэрца вашае і не баіцца». (Ян 14, 27).

*

Калі справа датычыць «здаровага сэнсу» і розуму, дык (на вялікі жаль!) за нашае памяці сьвет перажыў такія спакусы і захапленьні, трагедыі і катастрофы, што трэба сапраўды прызнаць магчымасьць сусьветнай сьлепаты ў грамадзтве, а нават — сказаць — агульнага чаду ці адрантвеласьці. Ці-ж з Гітлера не тварылі ў часе ягонага трыумфу — ня толькі немцы, але і іншыя — разумнага і шчасьлівага генія? Дый ці-ж ня беглі мільёны людзей на ягоны загад на пэўную сьмерць?!

А таксама іншыя мільёны, ці-ж ня лічылі тэрарыста Сталіна «бацькам народаў»? А хто-ж яны былі, Гітлер і Сталін? — Гэтыя абодвы былі вырадкамі і звыш-бандытамі... І ў падобнай сытуацыі жыве цяпер звыш 800 мільёнаў кітайцаў.

А на такія нашыя заўвагі Спадар Я. П. дае адзіную раду — кажа:

«Патрэбныя далейшыя і далейшыя перагонкі ў збраеньні!» — Ці-ж такое «лякарства» для няшчаснага сьвету мае быць памоцным і мае заступіць месца Хрыстовага пацыфізму?

Выясьнім гэта прыкладам — прытчай:

У адным гарадку жылі два суседы, Іван і Джон: абодвы — здольныя інжынеры-тэхнікі і слаўныя ў гэтым горадзе будаўнікі. Спачатку працавалі згодна, а нават дружылі; але пасьля — з няведамай прычыны — пайшлі ў іх перагонкі і разгарэлася варожасьць — аж дайшло да сьмяротнае ненавісьці! Дый з таёмнае сваркі грызьня сталася публічным скандалам: пагражалі адзін другому, рабілі наўзаем немалыя шкоды і шукаваліся да помсты; — то меркавалі падпаліць ворага, але баяліся агульнага пажару і сваей згубы, — то куплялі штораз мацнейшае аружжа, — аж урэшце — і той і другі — здабылі спэцыяльныя гадзіньнікавыя бомбы, каб раз на заўсёды пазбыцца ворага! —

І пры ўсім гэтым — у рэзультаце адпаведнай агітацыі — Іван і Джон здолелі падзяліць горад на дзьве палавіны, на прыхільнікаў і заўзятых ворагаў. Асабліва старана Івана палала агнём, а злосьць даводзіла іх да шаленства!

Праўда, нэўтральных аставалася ў горадзе больш, але яны не хацелі мяшацца ў спрэчкі і кожны займаўся сваім дзелам. Аднак, калі ворагі шыкаваліся да апошняе расправы, умяшаўся адзін нэўтральны (яго празвалі «Разумнікам»), які ня меў у душы супакою: бегаў па горадзе, заводзіў дыспуты-дыялёгі, каб пагадзіць ці разлучыць праціўнікаў.

І то праўда, што Разумніку ня йшло лёгка, бо там быў іншы нэўтральны, які высьмейваў Разумніка і лічыў ягоную дзейнасьць вельмі шкоднай. Гэтага празывалі «Філязофам»: ён, як могучы, супакойваў грамадзян, кажучы, што нічога нікому не пагражае; а сварка працягваецца нармальна, бо праціўнікі зброяцца раўнаважна і адзін баіцца другога. Значыць, горад мусіць вытрывала цярпліва цярпець усю калатню, працаваць і... спаць!..

Наагул нэўтральным больш падабалася навука Філязофа чым Разумніка і гэты штораз больш траціў грунт пад нагамі.

Нарэшце ў-ва ўсю сумятню ўмяшалася паліцыя і суд. У выніку сьледзтва, дапытаўшы асабліва Разумніка і Філязофа, суд пастанавіў высяліць абодвых задзіракаў, Івана і Джона, у далёкія гарады, каб закаранелыя ворагі з сабой не спатыкаліся, а збунтаваны горад прыціх да таго, што і імя ягонае зацёрлася...

*

А мы зьвернем увагу на тое, што такая раўнавага, да якой тэарэтычна імкнуцца Усход і Захад, ня можа быць устойлівай, бо кожная старана шукае перавагі, дык праціўнікі ня могуць стрымацца — аж мусіць дайсьці да выступу награмаджанай зброі! І сам наш крытык, Спадар В. П., прызнае, што да 3-яй вайны дажывём... А што далей?..

І вось выступае на сусьветную сцэну наш Пабажаны Крытык; ён дае рашучую прапанову паратунку — прыводзіць лацінскае прыслоўе: «Хочаш міру, шыкуй вайну!» — Аднак гэтае прыслоўе чыста паганскае і драпежнае: яно дайшло да нас з часаў магутнае Рымскае імпэрыі. Дык-жа гэтая палітыка не абараніла ваяўнічую імпэрыю; таксама змарнаваліся перамогі Напалеона, згінуў і Гітлер з сваімі плянамі заваяваць сьвет.

Тут трэба прыпомніць, як Папа Пій XI-ы асьцерагаў Муссоліні у 1936, калі Італія шыкавалася напасьці на Абіссынію. Тады Папа прыпомніў словы псальму 67 (68), 31: «Расцяруш народы, што жадаюць вайны!» І ў 1945 імпэратар Гайле Селяссі вярнуўся ў свой край, а Муссолін быў павешаны ўверх нагамі.

Але наш крытык В. П. піша: «3-яя вайна адбудзецца, міма гістэрыі пацыфістаў!» Ён

толькі заручае, што ў ёй «ядзернае аружжа ня будзе прыменена».

Пытаемся Філязофа-Крытыка, скуль яму гэта ведама? Ці гэта ягоная дагадка, ці добрая воля, ці жаданьне? Бо нават і ў самой Амэрыцы лічаць магчымай ядзерную вайну і ўжо падаюць дапушчальную статыстыку, што згіне ў ёй палавіна народу. Але не кажуць, што станецца з другой, «шчасьлівай» палавінай?

Але гісторыя Нагасакі і Гірашымы ў Японіі сьведчыць, што «шчасьлівыя-ацалеўшыя» будуць атручаны атамным ядам і будуць зайздросьціць памёршым...

Мы радзім пазнаёміцца з кніжкай «Званы Нагасакі» доктара Такашы Нагаі, які сам пацярпеў ад першай атамнай бомбы ў Нагасакі, а пасьля мучыўся ранены, ратуючы іншых. Апошнія тры гады ляжаў спаралізаваны, але мог яшчэ лежачы пісаць, пакуль рука магла трымаць пяро.

Нагаі быў ведамы пісьменнік і выхаваўца моладзі: пісаў так цікава, што ягоныя кніжкі перакладаюцца на розныя мовы сьвету. Апошнюю кніжку «Званы Нагасакі» кончыў перад самай сьмерцяй. Бомба выбухла там 2-га жніўня 1945, а гадз. 11-ай. Д-р Нагаі памёр у 1951, маючы 43 гады: ня было магчымасьці яго вылечыць ад атручэньня. Ягоны дом быў зьнішчаны і жонка згінула. Дзеці нацалелі, бо былі вывезены з гораду.

Нагаі апісаў, якія былі вынікі амэрыканскае бомбы: 9.000 градусаў тэмпэратуры, рух паветра — 2 кілямэтры на сэкунду. У Нагасакі 30.000 забітых і 100 тысяч раненых. У аднэй там школе — з 1.800 вучняў асталося жывых 200. — А ў гор. Гірошыма было ахвяраў шмат больш.

І гэта-ж былі атамныя бомбы першага выпуску, вельмі слабыя. А цяпер навука і тэхніка стварылі атамныя кабальтавыя, вадорныя і інш. — няведамыя нам сваей моцай і размножаныя бяз ліку. Іх хапіла-б, каб зьнішчыць ня толькі чалавецтва на зямлі, але ўсё жывое на шмат гадоў!

Дасюль ад пачатку сьвету людзі ня мелі ў руках такой шалёнай разрушаючай сілы, але заўсёды разьвязвалі спрэчкі — у апошняй стадыі нязгоды — войнамі, як рашучым аргумэнтам.

Хоць І-ую і 2-ую вайну Сусьветную называлі астатнімі і заракаліся больш ваяваць, але надарэмна! А вось пра 3-юю (не дай яе, Бог!) кажуць, што будзе астатняй для ўсяго чалавецтва і на заўсёды... Бо людзі самі сябе прычыняць канец і сьвету і людзтва...

Значыць, пакуль яшчэ ёсьць дух у целе, патрэба мабілізацыі людзкога розуму і ўсяго генія выдатных людзей, усяе навукі, адвагі і зручнасьці. А перад Богам — патрэба, каб усе веручыя мабілізавалі свае малітвы, пакуту і ахвяру з сябе самых. А тымбольш патрэбна, каб усе Цэрквы — духавенства, манаства ўсіх рэлігіяў — лучыліся ў сапраўдным экуменізьме дзеля малітвы і пакуты... Але нашто гэта ўсё? — Таму, што надыйшоў час такі адказны, бо мы, сучасныя, адказваем за ўсе будучыя пакаленьні і за ўсю іхнюю прышласьць — б ы ц ь  ц і  н я б ы ц ь?..

Такая думка павінна праняць кожнага чалавека і ўсё грамадзтва нашае, беларускае, і ўвесь сьвет.

І сьвет мусіць разьвітацца з прымусам і гвалтам, з заваёвамі й паняволеньнем і нагул з в о й н а м і, шукаючы разьвязкі спрэчак у законах Божых і людзкіх.

Для гэтага трэба ўтварыць сусьветны ў р а д, а паасобным народам пакінуць іх уласныя суды і ўлады, іх рэлігію, мову і школы — словам — даць ім поўную свабоду.

Такая ёсьць мэта нашых дыялёгаў і дыспутаў. А Філязоф Сп. В. П. мусіць яшчэ раз перадумаць свае пазыцыі, каб крытыкаваць усё паводле розуму і справядлівасьці і любові бліжняга! Каб крытыка не мяшала людзям пазнаваць небясьпеку і бараніцца ад яе!

«Ад заразы, голаду, агня і в а й н ы — Захавай нас, Божа!»

---

# Што кажуць пра астронаўтаў?

З рэлігійнага пункту гледжаньня кажуць паважныя духоўныя айцы вунь што:

Кардынал Урбані, патрыярх Вэнэцыі, кажа:

«Розум і адвага, якія характэрызуюць гэтую справу, пазваляюць нам адчуць больш, чым калі-колечы, што чалавек ёсьць вобраз бязьмежнай Магутнасьці, якой зьяўляецца Бог».

Кардынал жадае, каб здабыцьцё месяца прычынілася ня толькі да разьвіцьця навукі, але і да прагрэсу нашага жыцьця ў большай справядлівасьці і больш глыбокай згодзе.

Кардынал дэль'Аква, вікары Сьвятога Айца ў Рыме, казаў:

«Адчыніліся новыя гарызонты і ўмацавалася ў душы чалавека пачуцьцё ўласнае велічы й уласнае маласьці перад жахлівым —

у сваей мудрасьці — парадкам сьвету, які абсалютна і канечна вымагае існаваньня Стварыцеля».

Кардынал Флёрыт, арцыбіскуп Флёрэнцыі, уважае падарожжа «Аполлё 11» мілявым каменем у гісторыі чалавецтва, які не павінен забывацца, што яму яшчэ трэба заваяваць сябе самога і ўсю нашую плянэту».

Кардынал Дюваль зьвярнуў увагу на навуковае значэньне гэтае падарожжы і выказаў пажаданьне, каб яна прычынілася да супакою, а не да вайны і да жыцьця, а не да сьмерці.

У Бразыліі цэнтральны Камітэт Канфэрэнцыі Біскупаў выдаў загад, каб у-ва ўсіх сьвятынях цэлага краю ўдэрылі ў званы у той момант, калі першы чалавек паставіць нагу на месяцы. Падаючы да ведама гэты загад, бразылійскія біскупы зьвярнулі ўвагу, што намаганьнем свайго розуму, з помачай тэхнікі, чалавек спаўняе загад Стварыцеля, каб здабываў і загаспадарыў сьветам.

Кардынал Ляндацуры Рыккертс, арцыбіскуп Лімы (Паўдз. Амэрыка), сфармуляваў пажаданьне ў такіх словах: «Каб эра, якая пачалася, была новай ня толькі ў парадку тэхналягічным і навуковым, але і ў духовым — узаемнага зразуменьня і братэрства». Кардынал Каджыяно, прымас Аргентыны з Буэнос Айрэс, заявіў: «Выпаўняючы памысна нязвычайнае геройства, чалавек даказаў, што знае веліч і сілу, якую яму даў Бог».

Арцыб. Каповілля зьмясьціў у газэце «Аввэнірэ» такую заяву: «Хоць я і падзяляю агульнае захапленьне гэтай падарожай, аднак маю прычыны не гарачыцца занадта. Кошт у параўнаньні да беднасьці, якая ўсьцяж трывае, па мойму, завялікі!»

Яшчэ больш рэалістычна глядзіць на падарожжа «Аполлё 11-га» а. Туччы, рэдактар пэрыёдыку «Ля Чывільта Каттоліка». Ён піша, што высадка чалавека на месяцы ёсьць пэўне-ж панаваньнем чалавека над касьмічнымі сіламі. «Гэта сьвяткаваньне здольнасьці — пазнаваць, парадкаваць сваю веду і карыстаць з яе, каб рэалізаваць штораз адважнейшыя праекты. Гэта — падвышэньне салідарнасьці ў навуковым пошуку і ў тэхніцы, гэта — доказ, што чалавек мае магчымасьць рабіць тое, што магло перш здавацца неймаверным і немагчымым».

Далей а. Туччы кажа, што касмічная падарожа павінна лічыцца ростам чалавецтва: чалавек можа гаспадарыць у космасе, каб ён служыў чалавеку, усяму і кожнаму чалавеку... Каб нельга было сказаць, што чалавек патрапіць хадзіць па месяцы, а не патрапіць жыць палюдзку на нашай плянэце...

Прыпомніўшы Хрыстовую перасьцярогу: «Што паможа чалавеку, хоцьбы заваладаў усім сьветам, а згубіў-бы сваю душу» — а. Туччы ўважае, што каб ратаваць душу, патрэба асягнуць узрост маральнай адказнасьці. А да гэтага прычыніцца толькі рэлігійная вера хрысьціян, бо толькі яна можа зрабіць навуку і тэхніку больш чалавечымі, каб зьвяртаць большую ўвагу на чалавека, бо ім апякуецца таёмная Любоў, якая агартае, пранікае і ажыўляе ўсе чалавечыя справы».

*

Варта такжа адзначыць заяву экумэнічнанага Патрыярха Атэнагораса, які сказаў, што галоўным фактам, вынікаючым са здабыцьця прасторы, ёсьць вызваленьне чалавека з геоцэнтрызму. «Чалавек стаўся міжплянэтным пілігрымам і ў ягонай галаве даканаўся вялізарны пераварот ідэяў. Быць можа мы знайходзімся ў зараньні новае мудрасьці, новае здольнасьці разуменьня».

І ўрэшце дзьве заявы прадстаўнікоў высокіх міжнародных арганізацыяў.

Сакратар Аб'еднаных Народаў, У Танг, абʼявіў: «Сьвет быў прысутны пры высадцы на месяц з узрушэньнем і гордасьцяй і з пачуцьцём салідарнасьці. Дык возьмем-жа патхненьне з гэтага мамэнту і пойдзем разам мірна тутка на зямлі!»

Рэнэ Магэу, генэральны старшыня ЮНЭСКО, які цяпер знайходзіцца ў Вэнэцыі, на Зьезьдзе Міжнароднага Камітэту, каб ратаваць гэты горад, сказаў, што падарожа трох амэрыканскіх астранаўтаў адкрывае дзіўныя магчымасьці прагрэсу навукі і тэхнікі. «Гэтыя магчымасьці павінны быць выкарыстаны ў мірных імкненьнях да дабра ўсяго чалавецтва ў міжнародным супрацоўніцтве, якое адно толькі можа прыдаць гэтай падарожжы сапраўднае яе значэньне і сапраўдны сэнс. І з гэтага пункту гледжаньня, перад усім чалавечага, павінна быць ацэнена гэта сяньняшняе здарэньне, і ў гэткім зразуменьні яно выходзіць паза звычайныя памеры гісторыі. Знак новага этапу ў разьвіцьці чалавечага роду, які першы раз перашагнуў гарызонт свайго паходжаньня».

*Сабраў а. Ф. Ж.*

*а. Фэлікс Журня*

# Люрд

Прамінула ўжо некалька дзён, як я вярнуўся з Люрд, а яшчэ не прайшло захопленьне і адчуцьцё блізкасьці там Бога. І здаецца, усьцяж яшчэ бачу натоўпы народу, што ў глыбокай малітве стаяць перад гротай Божае Маці і тужліва прыглядаюцца на Яе статую і разважаюць, што тут звыш сто гадоў таму адчынілася неба над зямлёю і аб'явілася Найсьвяцейшая Дзева ў нябеснай прыгожасьці і дабраце.

І якое вялізнае ўзрушаньне выклікаюць шматлікія рады вазкоў — спэцыяльных — з калекамі і хворымі, якія стрымліваюць свае енкі і стогны і пільна з малітваю ўглядаюцца ў гроту і на Хрыста-Бога ў Сьвятой Эўхарыстыі. І мусіць кожнаму з іх набягае думка: »А можа і на мяне гляне Хрыстос, як калісьці бывала ў Палестыне і скажа: — Табе гавару — ўстань, вазьмі ложа сваё і ідзі ў дом свой!»

І ўсе хворыя моляцца ў душы, а хто і голасна, асабліва падчас працэсіі, як калісьці апосталы падчас буры на возеры: «Настаўнік, Настаўнік, мы гінем!». Іншы ў страшэннай роспачы і зьнемажэньні кліча: «Ісусе, сыне Давідаў, зжалься нада мною!»

А некаторыя абязьвечаныя бязлітаснай хваробай, страціўшы і здароўе і ўсю красу маладосьці, з пакорным падданьнем шэпчуць: «Госпадзе, калі хочаш, можаш мяне ачысьціць!» (Лк. 5. 12).

А здараюцца і такія нешчасьлівыя і апушчаныя, абяссіленыя і целам і душою, што трэба ім памагаць і фізычна і маральна — прывезьці, павярнуць на пасьцелі і падняць на ложы дый успамагаць малітваю, падтрымаць іхнюю надзею і пацешыць у нядолі.

З хваляваньнем і спачуцьцём паглядаў я на доўгія, проста бясконцыя шнуры гэтакіх вазкоў з хворымі: цягнулі іх саматугам, ці папіхалі перад сабою людзі добрае волі; гэтыя »самарытанцы» бывалі зусім незнаёмымі, чужымі і прыгоднымі прыслужнікамі — і маладыя і сталейшыя, і духоўныя і сьвецкія, і простыя і з высокае інтэлігенцыі, — дый усіх іх запрагала сапраўдная любоў бліжняга... Адна думка лучыла ўсіх, каб служачы бліжняму, служыць Богу.

А ўсе хворыя, як могучы, з помачай людзкою, імкнуцца да Божае Маці — з верай і надзеяй, што ласкава і міласэрна нагародзіць іхні давер і труд, як і іхніх апякуноў. І аніяк нельга забыцца ані той пабожнасьці народу, ані тых актаў міласэрдзя, ані таксама тых аганькоў ад сьвечак, што дзесяткамі тысяч мігацелі падчас вячорнай працэсіі: яшчэ і дасюль чую ў душы, а зьвіняць у вушах прыгожыя сьпевы «Авэ — Авэ — Авэ, Марыя!»

Аднак час мінае і рэха люрдзкіх песьняў і ўспаміны пераж ываньняў пакрысе — пад уплывам будняга жыцьця і клопатаў — цьмянеюць і паволі гаснуць, як прыгожы блеск заходзячага сонца з надыходам змроку. Але — спадзяюся — ніколі не затрэцца ў душы ўсё тое, што Божая Маці дае сваім дзецям, каб ніхто з іх не адышоў з пустымі рукамі — гэта цудоўны дарунак, таёмны і ажыўлены сьветач-зьніч веры, надзеі і любові да Бога і да Яе, нашае добрае Маткі-Апякункі-Суцяшыцелькі.

— О, Найсьвяцейшая Маці! Раз'ясьні нам шлях будняга жыцьця, падтрымай нас у трудных і блудных сьцяжынках, каб маглі мы адважна і вытрывала крочыць аж да сустрэчы з Табою ў небе! —

## ЛЮРД — ГОРАД БОЖАЕ МАЦІ

Кажуць, што Дзева Марыя мае добры густ. Сапраўды, гэта якраз бачыцца ў Люрд — горад, а ў ім даліна — месца, якое Божая Маці выбрала для аб'яўленьня ў 1858 годзе. Гарадок быў невялічкі ў Францыі пры гішпанскай граніцы, нічым не адзначаўся, апрача свайго прыгожага наваколья. Ляжыць ён пад самымі Пірэнэямі, а побач прабягае горная рэчка Гава, праразаючы горны ланцуг, які акружае даліну Люрд, творачы цудоўную панараму.

Гэты горад існуе ад рымскіх часаў і сьведчыць аб гэтым старадаўная крэпасьць, што стаіць пасярод яго на выдатным узгорку. Насельніцтва тут францускае зьмешанае з даўнейшым правансальскім, якое даўней гаварыла сваей мовай.

І вось тут 11 лютага 1858 Божая Маці аб'явілася простай дзяўчынцы, Бэрнадэце Субіру. Яна была дачкой вельмі беднай сям'і, што пражывала ў гарадзкім доме, прызначаным для бяздомных. Бацька быў мала разгорнуты і ледзь мог здабыць кусок хлеба для чацьвярых дзяцей самай простай працай. Бэрнадэта была самай старшай і спозьненай у навуцы дзеля дакучлівай астмы — тымбольш, што ў школе вучылі па францускy, значыць, у чужой мове.

Нам, беларусам, гэта добра зразумела, бо і цяпер, як і даўней, нашыя дзеці мусяць здабываць веду ў накіненых чужых мовах, як і маліцца Богу чужымі словамі.

Паміма ўсяго Бэрнадэта была разумнай, добрай і пабожнай дзяўчынкай: у сваіх немарасьцях навучылася цярпець ціха і спачуваць чужым няшчасьцям.

З Божае волі Найсьвяцейшая Дзева Марыя аб'явілася якраз гэтай так мала выдатнай дзяўчынцэ ў наступных абставінах:

Тры дзяўчынкі, Бэрнадэта з сястрой і адна суседзкая, пайшлі за раку Гаву ў Массабіельскія горы, каб там у лесе сабраць сухога гальля, бо трэ было зварыць вячэру. І ў мамэнце, калі Бэрнадэта падыйшла да гроты-пячоры, там убачыла вельмі прыгожую, маладую жанчыну: ня ведала, хто яна ёсьць, але прачувала, што зьява з неба. І адразу ўпала ў экстазу: не магла адарваць вачэй ад тае «Спадарыні» і забылася аб усім на сьвеце. Такой прыгожасьці яна ніколі ня бачыла і не магла пасьля апісаць!

Так Божая Маці зьяўлялася Бэрнадэце ў гэтай гроце ў працягу 6-ці месяцаў: вучыла яе маліцца і Сама з ёю малілася на ражанцы, гаворачы толькі: «Хвала Айцу і Сыну і Сьвятому Духу». Абяцала ёй, што зробіць яе шчасьлівай, але толькі не на гэтым сьвеце.

Калі пабожныя дый цікавыя людзі пачалі зьбірацца на тое месца, каб пабачыць Бэрнадэту ў экстазе (ніхто іншы нічога не бачыў, толькі заўважалі перамену ў вачах і ў абліччы дзяўчынкі), дык недаверкі і паліцыя ў Люрд пачалі дапушчаць і меркаваць у гэтым «царкоўныя інтрыгі» і пастанавілі сарваць зборкі. Аднак Бэрнадэта дамагалася, каб пазволілі ёй ісьці на тое месца, калі чула ў душы пацяг, што «Спадарыня заклікае». Народ таксама дамагаўся свабоды ўва ўсей акцыі, бо сапраўды тут ня было нічога супраць права і законаў улады цывільнай.

Бацькі Бэрнадэты, асабліва яе энэргічная матка, мелі вялікія труднасьці ў сумленьні, ці пазваляць дачцэ хадзіць у гроту: баяліся супраціўляцца Богу і лічыліся з уладай цывільнай і касьцельнай, а суседзі і чужыя людзі ўсьцяж давалі розныя рады і просьбы.

А тымчасам «Спадарыня» заклікала народ — праз паслугу Бэрнадэты — да малітвы і пакуты.

Нарэшце дзяўчынка, хоць вельмі баязьлівая і нерашучая, адважна пайшла да мясцовага пробашча з просьбай ад «Спадарыні», каб збудавалі там капліцу і каб ладзіліся працэсіі. Але сьвятар дамагаўся знаку з неба.

І вось быў дадзены Бэрнадэце і ўсяму народу і духавенству такі з неба знак: аднойчы «Спадарыня» загадала Бэрнадэце, каб напілася вады і абмылася сама. Дзяўчынка думала, што трэба бегчы да ракі Гавы, але «Спадарыня» паказала на куток пры сьцяне скалы-гары, што там ёсьць вада. Хоць там было месца сухое, але Бэрнадэта пачала скрабсьці рукамі і стала паказвацца з пад яе рук вада: тады яна пачала піць і абмывацца. Аднак толькі абмазалася мокрай зямлёю — аж прысутным людзям здалося, што дзяўчынка звар'яцела: адны сьмяяліся з яе, іншыя згоршыліся і пачалі разыходзіцца ў вялікім расчараваньні.

Дзяўчынка перажыла вялікае гора і смутак, бо спакуса была вельмі балючая.

Аднак вада пайшла спачатку малым руйчаком, а пасьля струменем у тым месцы, дзе перш ня было яе і сьледу. Гэтая крыніца «жывой вады» цячэ дасюль і ня ўбывае: вада аказалася здаровая для піцьця і аздараўляючая хворых, хоць няма ў ёй ніякіх гаючых элемэнтаў.

Ад гэтага факту-знаку з неба — натоўпы народу пачалі прыбываць і працiскацца да цудоўнай вады.

Найважнейшае аб'яўленьне адбылося 25 сакавіка 1858, калі «Спадарыня» — на просьбу народу і Бэрнадэты сказала сваё імя: «Я ёсьць Непарочнае Зачацьце». Характэрна й тое, што Божая Маці гаварыла да Бэрнадэты ў мясцовай гутарцы — па правансальску (не па францускі!).

Апошняя зьява адбылася 16 ліпня, але Бэрнадэта не магла ўвайсьці ў гроту і толькі праз шчыліну загародкі бачыла Божую Маці: расказвала посьле, што ніколі перш Непарочная ня была такой бязьмерна прыгожай! — (Трэба заўважыць, што паліцыя абгарадзіла крыніцу ад народу, каб ніхто ня мог дайсьці і браць цудоўную ваду!)

*

Пра адно аб'яўленьне расказвае доктар Дозу, мясцовы лекар, які сам быў навочным сьведкам. Наколькі камісар паліцыі і тутэйшая інтэлігенцыя адносілася недаверліва да здарэньняў у Люрд, то гэты доктар быў прынамсі чэсным чалавекам і сьцьвердзіў дый сьведчыў праўдзіва, хоць сам і не адзначаўся ані пабожнасьцяй, ані стойкасьцяй веры. Ён расказвае: «Калі Бэрнадэта прыйшла да гроты, дык зара ўпала на калені, выняла з кішані ражанец і пачала маліцца. Раптам уздрыгнула і збляднела, вочы зьвярнуліся да гроты, а на вуснах зьявілася ўсьмешка. Калі правай рукой перабірала пацеркі ражанца, у левай трымала сьвечку, якая часта гасла ад ветру, тады давала бліжэйшым, каб яе запалілі».

Пры гэтым доктар праверыў пульс дзяўчынкі і сьлядзіў яе рухі, але пульс быў нармальны і нічога не паказвала на нэрвовасьць ці ўзрушэньне. За хвіліну аднак заўважыў, што па ейным твары, які паказаўся сумным, сплывалі дзьве сьлязінкі.

Калі яна ўстала, доктар спытаўся, чым яна была занепакоена? Бэрнадэта адказала, што «Спадарыня» ў размове глянула на сабраных людзей і сказала з вялікім сумам: «Маліцеся за грэшнікаў», а пасьля зьнікнула.

А доктар хацеў упэўніцца, ці няма ў дзяўчынкі якой псыхічнай ненармальнасьці, аднак нічога падобнага ён не знайшоў.

Пасьля да яго прынесла адна матка дзіцця блізкае сьмерці, якое ён бездапаможна адправіў. Тады тая жанчына пабегла з дзіцяткам да

гроты і выкупала яго ў той халоднай вадзе, што цудоўна выплывала з пад рук Бэрнадэты, хоць прысутныя людзі моцна пратэставалі і не дапускалі маці да гэтага. Як выняла яго з вады, хлопчык быў увесь зсінеўшы і людзі казалі, што, значыць, сканаў. Але, як бегла дамоў, молячыся ў голас, дзіця адчыніла вочы і ў хаце пабегла з матчыных рук...

Пасьля ўсіх аб'яўленьняў бацькі аддалі Бэрнадэту ў школу-інтэрнат сясьцёр-законьніцаў: там яна праходзіла пачатковую адукацыю і прыступіла да І-е Камуніі (Прычасьця). Даросшы, уступіла ў іхні манастыр у гор. Нэвэрс, далёка ад Люрд. Там яна працавала ў шпіталі, услугоўваючы хворым з вялікай ахвярнасьцяй і пакорай. Пад канец жыцьця Бэрнадэта доўга хварэла на сухоты касьці ў назе. Калі ёй радзілі паехаць у Люрд, каб там выкупацца ў цудоўнай вадзе, якая шмат каму памагае, яна адказала, што гэта не для яе і ахвяравала пакуту за грэшнікаў. Памёрла вельмі пабожна, маючы 35 гадоў. У 1933 Царква аб'явіла Бэрнадэту сьвятой.

## ЛЮРД ЦЯПЕР

У Люрд усё вельмі зьмянілася: горад стаўся месцам готэляў і пілігрымаў. Сама грота асталася ў сваім натуральным выглядзе адчыняная да пляцу — гэта вялікая пячора, як разрэзанае паўшар'е і там нічога ня зьменяна, апрача таго, што зроблена пасадзка. З правага боку на скале, дзе зьяўлялася Божая Маці, пастаўлена прыгожая статуя Яе, хоць Бэрнадэта казала, што яна бачыла бязьмерна прыгажэйшую. Пасярод пячоры — ёсьць аўтар. А з левага боку выцякае з гары цудоўная вада — струмен. Ваду бяруць каму сколькі жадаецца бяз ніякае кантролі, а частка праведзена ў спэцыяльны будынак, дзе ў двох асобных басэйнах апускаюць хворых у тую халодную ваду.

Над гротай пабудавалі не капліцу, але тры вялікія сьвятыні: адна з іх крыпта Маці Божае Ражанцовае выкута ўся ў скале, а ў ёй 15 аўтароў на 15 тайніцаў Ражанца з жыцьця Хрыста Збавіцеля і Найсьв. Дзевы Марыі. Дзьве другія сьвятыні ўзносяцца адна над другою і ўмяшчаюць па тры тысячы народу, ствараючы прыгожую цэласьць у цудоўнай гармоніі з маляўнічай аколіцай. Але іх не хапала для вялізарнага ліку пілігрымаў, дык недалёка ад гроты збудавалі новую базыліку імя сьвятога Пія Х-ага: яна ўся пад зямлёю і зьмяшчае больш 30-ці тысяч народу.

Найважнейшым месцам лічыцца сама грота: у ёй характэрная памятка дакананых некаторых цудаў-аздараўленьняў — гэта пратэзы, кастылі і палкі — падпоры, на якіх прыбывалі сюды хворыя і якія пасьля аказаліся непатрэбныя.

Праз увесь цёплы сэзон штодня сюды прыходзяць, прыяжджаюць прыплываюць і прылятаюць пілігрымы з цэлага сьвету: лічачы агулам, прыпадае па 25 тысяч кожнага дня, а на год да 3-х мільнёнаў. У гэтым ліку бывае ў год да 50 тысяч хворых, запісаных у мясцовым Мэдычным Бюро. Яны пераважна цяжка і нявылечна хворыя. На пляцох ля гроты і ля сьвятыняў захоўваецца поўны супакой і прыкладная цішыня, бо сюды не заяжджаюць машыны і няма ніякіх крамаў, ані гандлю: усё шумлівае і неспакойнае астаецца далёка ў горадзе. Штодня адбываецца тут нямала сьвятых літургіяў і працэсіяў, асабліва эфэктоўная і ўзрушаючая працэсія адбываецца ў вячорным зьмярканьні, калі групуюцца пілігрымы сваімі гурткамі і праходзяць з песьнямі ў чэсьць Маці Божае: «Авэ — Авэ — Авэ, Марыя» — «Вітай, Марыя!». (Нават на здымку бачым гарманічную працэсію, у якой дзесяткі і сотні тысяч з сьвечкамі праходзяць у малітаўным настроі, якбы разложаныя рытмічна вянкі кветак).

Пасьля палудня ладзіцца працэсія з Найсьвяцейшай Эўхарыстыяй, — адбываецца багаславенства хворых· тады нярэдка здараецца раптоўнае аздараўленьне хворых — лежачыя паралітыкі і інш., што не маглі падыймацца, устаюць бяз помачы і радасна вертаюцца дамоў. Цяпер і адзінкі і групы — кожныя ў сваей мове — моляцца голасна, просячы Бога — малітвамі Багародзіцы — памагчы і ратаваць у няшчасьці.

*

Люрд — месца хворых. Тут для іх пабудаваны два вялізарныя шпіталі, у якіх працуюць бясплатна многія ахвотнікі, нават і з інтэлігенцыі, а вельмі часта тыя, што былі цудоўна аздароўлены самі з цяжкіх немачаў. І агульна ведама, што прыяжджаюць ня толькі з надзеяй выздараўленьня, але і з чыстай пабожнасьці дый проста не здараецца, каб вярталіся сумныя ці расчараваныя: кожны адчувае прыліў радасьці, пацехі і Божае ласкі і адчувае такое ўзмацненьне волі, што можа лягчэй пераносіць свой крыж цярпеньня, паддаючыся Божай волі. Ад пачатку аб'яўленьня Божае Маці налічваецца больш 2-х тысяч выпадкаў у нявылечных хваробах, калі мэдыцына не магла адратаваць чалавека — (рак, сухоты касьці і інш.), а хворыя адразу пачуліся здаровымі і хвароба не вярнулася. Для праверкі хворых установлена спэцыяльнае Мэдычнае Бюро, у якое могуць уваходзіць дактары розных нацыяў, рэлігіяў і праканаваньняў.

Бываюць выпадкі, што адразу ліквідуюцца дэфармацыі органаў, выпраўляюцца зьнішчаныя органы цела, зьнікае ропа, вада, гангрэна. Гэтыя людзі, што ляжалі гадамі ў немачы, адразу вяртаюцца да цяжкой працы, могуць жаніцца, але нямала такіх, асабліва з жанчын, што пасьля аздароўленьня ідуць у манастыры.

Выпадкі аздараўленьня бываюць пры багасл. Сьвятымі Дарамі, або ў купелі ў цудоўнай вадзе.

Дый вада гэта самая звычайная, годная для піцьця і не мае ніякіх мінэральных соляў, а прытым халодная. Нікому з хворых яна ня шкодзіць, хоць у ёй купаюць і нават заразных хворых. А часам аздараўляе чалавек, якому Люрд не памагаў, але ў павароtнай дарозе, ці ў дому — неспадзявана і раптоўна.

вельмі баялася памірацЬ. I вось пачула ў душы голас, каб яшчэ раз скупацца ў той вадзе! Як вынялі яе з вады, дык пачула ў сабе адразу вялікую перамену, але ня ведала, што гэта значыць.

Калі перанесьлі яе ў Бюро да дактароў, дык тыя сьцьвердзілі, што яна зусім здаровая! Бо



*Такім цудоўным вянком адбываецца вячорная працэсія: кожны ідзе з сваею сьвечкаю. Бачым, як народ ідзе роўненька: хоры съпяваюць гімн да Божае Маці, а ўвесь народ згодна ўлучаецца з словамі: «Авэ-Авэ-Авэ, Марыя!»*



*Багаслаўленьне хворых Найсьвяцейшым Сакрамантам (Дарамі) ў працэсіі, а пры гэтым нярэдка здараецца цудоўнае аздараўленьне ў цяжкіх нявылечных хваробах.*

Усе гэтыя факты ўзятыя з новай кніжкі д-ра Олівьеры 1969 г.: «Ці ёсьць яшчэ цуды?» — Гэты доктар апісаў 18 выпадкаў, якіх сам быў сьведкам. Асаблівa адзін выпадак трэба тут успомніць.

Закончым тым, што расказала аб сабе адна жанчына: яна працуе ў Бюро хворых і аздаравела 20 гадоў таму. Была хворая на рака, які зьнішчыў у яе лёгкія і горла: як прывезьлі яе ў Люрд, была ўжо ледзь жывая. Апусьцілі яе ў халодную ваду, але нічога не памагло. Уявіла сабе, што трэба памерці, а не зрабіла ў жыцьці нічога дзеля Божае хвалы і дабра людзям, дык

усё, што рак зьнішчыў, было нанава адбудавана і ані сьледу хваробы! I вось яна жадала абнавіцца і духова: пачала працаваць пры хворых у тым-жа люрдзкім шпіталі. Па 20-ці гадах працы ў Бюро і ў шпіталі, ужо ў пахілым веку, добра і настойліва працуе і валадае зычным голасам, калі да аздараўленьня рак горла не даваў ёй зусім гаманіць. Пілігрымы пыталіся ў яе, ці не магла-б штосьці напісаць пра сябе? «Ах, казала, я вельмі занята й не маю часу!»

Гісторыя аздараўленьняў даступна ўсім у Люрд: хто мае жаданьне і веду, можа студываць у архівах Бюро, аглядаць дакуманты і фо-

то, выпытваць дактароў і працаўнікоў бяз ніякае перашкоды. Асабліва вялікае ўражаньне робяць фото хворых у іхняй слабасьці, а пасьля аздараўленьня гэтакія шкілеты самі ўстаюць з ложа дый пасьля году яны ўжо выглядаюць поўныя сілы і здароўя.

Так праяўляецца Моц Хрыстовая малітвамі Божае Маці, Заступніцы няшчасных людзей у Люрд, у Фатіме і ў іншых цудоўных месцах. Але і наагул хтоколечы і дзеколечы з верай і любоўю прыбегае пад Яе апеку, можа выпрасіць у Бога помач і ласку. — А так нам трэба цяпер асаблівай Божай ласкі Міласэрдзя для ўсяго грэшнага сьвету, каб сьцярог нас ад «паветра, голаду, агня і вайны!»

---

*Уладзімер Глыбінны*

# На Сьвятой Зямлі

(НАРЫСЫ З ПАДАРОЖЖА Ў ПАЛЕСТЫНУ)

## УСТУП

### З КНЯЖАГА ПОЛАЦКУ Ў СЬВЯТЫ ГРАД

*«...Пріими дух мой от мене во святем граде Твоем Іерусаліме, пресели мя в Вышній град Твой Іерусалим. Покой мя на лоне Патриарха Авраама со всеми угождшими те, аминь».*

З малітвы Сьв. Еўфрасісі Полацкай.

Калі дваццацігадовую полацкую князёўну Прадславу ахінула раскоша Сьвятога Духа і падказала ёй ісьці ў манастыр, ніякія спакусы дабротаў сьвецкага жыцьця ня спынілі навагі прыняць пастрыжэньне. Колькі ні галасіла ейная маці і як ні стараўся пераканаць яе ў перавазе людзкога жыцьця ейны бацька — князь Юры Сьвятаслаў Усяславіч, як ні спакушалі яе багатыя, знаныя жаніхі з князёўскіх родаў, і як, нарэшце ні стараліся ўзьдзеіць на яе родныя дзядзькі, не скарылася маладая князёўна. Голас Божы ў ёй выявіўся мацнейшым і непераадольным перад абліччам абы якіх спакусаў. І вось унучка славутага Полацкага князя-волата Ўсяслава становіцца манахіняй Еўфрасініяй, каб служыць Божай справе, будаваць манастыры, шырыць духовае слова, перапісваючы кнігі, малюючы абразы, вышываючы рызы, упрыгожваючы мастацкімі каштоўнасьцямі крыжы, выхоўваючы манашак у пашане і любові да Бога, дапамагаючы бедным. Пад ейным кіраўніцтвам прынялі пастрыжэньне родная сястра Гардыслава (Аўдакія), стрыечная сястра Звеніслава (Еўпраксія), пасьля дзьве пляменьніцы, Агафія і Еўфімія. А на схіле свайго жыцьця Сьв. Еўфрасінія знайшла ў сабе досыць сілы, каб разам з сястрою Еўпраксіяй і братам Давідам паехаць у сьвятыя месцы Палестынскія. Наведала Канстантыноваль, Сабор Сьв. Сафіі і іншыя цэрквы, прыняла багаславеньне патрыярха. На Сьвятой Зямлі колькі разоў пакланілася Гробу Гасподняму, паставіла там залатую кадзільніцу і прасіла Госпада Бога ў маліцьве, каб спадобіў яе адыйсьці ў лепшы сьвет у Сьвятым горадзе. Праз 24 дні пасьля занядужаньня аддала дух Богу 23 траўня 1167 г. і была пахавана ў Палестынскім манастыры Феадосія. У 1186 г. мошчы Сьв. Еуфрасініі былі перавезены ў Кіеў, адкуль у 1910 г. былі перанесеныя у родны горад Полацк.

Летапісцы княжага града Полацка адзначаюць асаблівую славу тога места, што ўзгадаваў такую слаўную дачку, «нявесту Хрыстову», прападобную Сьв. Еўфрасінію Полацкую. Ейны шлях з княжага Полацку ў далёкую Сьвятую Зямлю і Сьвяты град Ерусалім заўсёды быў і будзе на векі вечныя пуцяводнай зоркай для ўсіх тых, хто прагне адведаць пакутную радзіму Хрыста. Э гэтай думкай не разлучыўся і наш беларускі паломнік, які пасьля 799 гадоў пасьля Сьв. Еўфрасініі прайшоўся ейнымі шляхамі па гарачай Палестынскай зямлі ў пошуках тае-ж духовае і жыватворчае вады, што вадзіла і водзіць ці аднаго паломніка з усяго сьвету да Хрыстовае крыніцы.

### У ДАРОЗЕ ПРАЗ ЯРДАНЬ...

*«Дожджык, дожджык, перастань!*
*Я паеду на Ярдань...»*

(З песьні)

Усевалад Ціхановіч усю ночную дарогу праз акіян, Францыю, Італію ды Сяродземнае мора ніяк ня мог дайсьці да спакою. На ўсходзе далягляд заружавеў нечакана рана, і вочы мімавольна цягнуліся пасалавелым позіркам да самалётнага вакна, пад вузенькай проламкай якога пераліваліся на ўсе ла-

ды й адценьні нязвычна зыркія, да болю ў зрэнках праменьні раньняга, яшчэ поўнага белаты, сонца. А яно раптам пачало ўсё больш настырліва і рашуча наступаць з усходу. Тае начы нібыта й ня было. У дрыготкім гуле неяк неўзаважна прабеглі гадзіны ночнае рупнасьці. Неўспадзеўкі морак пачаў таяць і каля Ўсевалада. Адылі, каб прыпаўшы да празрыстае шыбіны і любуючыся то белявымі хмарынкамі, якія суцэльнай коўдраю ўсьцілалі акіян унізе і тварылі ўражаньне нябеснага скляпеньня пад самалётам, то жмурачыся ад сьвітальнага заранку, ён ня мог вызваліцца ад глыбокага ўтрапеньня, якое ім уладала скрозь. Ніякая пярэстасьць і нязвыкласьць уражаньняў не магла адцягнуць яго ад тае галоўнае думкі, што сьвідравала голаў і будзіла трапятаньне ўсхваляванае душы. Мроі пераносілі яго з прасьцягаў акіяну, пазьней з прастораў французскіх палёў, што набягалі зялянінай дуброваў і жаўцізною пшанічных палетак, а далей ад італьянскіх дбайна высаджаных садоў і панатыканых уздоўж узьбярэжжа каменных глыбаў-гарадоў, туды . . . куды ён цяпер ляцеў пасьля стольскіх год мараў, плянаў, меркаваньняў, трызьненьняў. У думках і ўявах ён ужо даўно, ад пачатку рыхтаваньняў быў там, куды цяпер высака ў паднябесьсі нёс яго гэты ракетны лятун.

Сьвятая Зямля! . . . О, як яму жадалася хутчэй адчуць пад падэшвамі гарачыню распаленага пяску, па якім хадзіў Вялікі Збаўца, сваімі вачыма навечна занатаваць у памяці так добра ведамыя з Сьвятога Пісьма, дарагія сэрцу мясьціны! Прадчуваньне блізкімі іх пачалося ўжо ў Сірыйскай пустыні, калі за вокнамі тралейбуса, што на ўсю хуткасьць нёс паломнікаў на поўдзень ад Дамаска да Ерусаліму, навыперадкі беглі бясконцыя палі чорнага каменьня ды занядбанага людзьмі парыжэлага пяску. Перад зьмяркаьнем, калі дзённая гарачыня раптам пачала зьнікаць пад павевам прахалоды, а тралейбус сунуўся ўздоўж даліны з першымі адзнакамі пажоўклай зяляніны, было абвешчана, што падарожныя ўжо на запаветнай Палестынскай Зямлі. Недзе ў перадгор'і часчасам пабліскавала істужка далёкай рачулкі. Яна то зьнікала за горамі зыбучага пяску, то зноў раптоўна зіхацела няроўнай цененькай палоскай на даляглядзе. І раптам, зусім нячакана, ужо ў непрагляднай цямноце аўтобус запыніўся адразу за мостам на высокім насыпу.

— Рака Ярдань! — пранеслася ад аднаго да другога шапатлівым голасам уразьлівая навіна.

— Сьвятая Ярдань! — ураз адгукнулася маланкай у сьведамасьці кажнага паломніка. І кажны навыперадкі подбегам стараўся хутчэй апынуцца на беразе каля струменю, якім калісьці амываўся ў духовай раскошы наш Вучыцель. Паломнікі пачалі згружвацца на ўсхонным каменным беразе, які якраз каля места тварыў досыць шырокую пляцоўку. Кажны пільна ўзіраўся ў таямнічы бляск віратлівага невялікага струменю ўнізе, цікаваў водбліскі ўзыходзячага маладзіка ў ім і з нявыказным трапятаньнем сэрца ўслухоўваўся ў ягонае ціхае, поўнае таёмнага сэнсу, вуркатаньне.

Неўзабаве Ўладыка, суправаджаны польскімі сьвятарамі-паломнікамі, распачаў маленьне. Аб'яднаныя паломніцкім энтузіязмам галасы ўскаланулі прастору. Гулкае рэха далёка ў горы і пустыні панесла словы малітваў, поўных чалавечага смутку і болю за таго, чыім імем на векі вечныя стаўся слаўным і набыў незгасальнае сымбалічнае сілы гэты выток жывое вады сярод няжывой, здавалася-б, спаленай дашчэнту, пустыні. І доўга-доўга ночную цішыню пустыні, што аддавала цяпер назапашанае за доўгі ліпеньскі гарачы дзень цяпло бяздоннай нябеснай сіні, разрывала гучна-вымоўная слава Госпаду-Богу, паслаўшаму свайго Сына для выратаваньня роду чалавечага. Кажны з самага дна свайго сэрца выказваў поўным голасам бязьмежную ўдзячнасьць Усявышняму за шчасьце спадобіцца хоць у нечым Божаму Сыну і прайсьціся ягонымі пакутнымі дарогамі. Дзіваваліся ў небе карагоды зорак. Спасьцярожліва з вышыні ледзь-ледзь сьвяціў зубцаваты акраец месяца, што бліскучай падковай узыходзіў над галовамі незнаёмцаў і ледзь кранаўся іхных узбуджаных, бледных у ночным сьвятле, твараў.

Па часе ўсе спакваля вярталіся да аўтобуса. Рэшту дарогі ніхто не адазваўся ні словам. Ніхто не пачуваў сябе ў стане парушыць агульнае ўрачыстасьці пачуцьцяў, якія паланілі кажнага ў роўнай меры. Дарма, што гэта было адно спатканьне з пачаткам ракі па дарозе, што яшчэ мусіць адбыцца ў іншым месцы сустрэча з адумысловай мэтай вадохрышча і сьвятой малітвы на Сьвяшчэннай рацэ, аднак гэтае першае запазнаньне з ёю пакінула па сабе глыбокі сьлед. Ва ўнісон з усімі Ўсевалад Ціхановіч таксама ніяк не адыйшоў ад одуму усю дарогу. Яму яскрава згадвалася, як ён малым з іншымі дзецьмі менскае акраіны ў летні дождж ык, закасаўшы свае штаніны, гойсаў праз лужыны вады і голасна сьпяваў:

*Дождж ык, дождж ык, перастань-*
*Я паеду на Ярдань*
*Богу маліцца,*
*Цару кланіцца!*

І неяк так заўсёды здаралася, што Ўсявышні ўслухоўваўся ў дзіцячую шчырую беспасярэднюю просьбу і дараваў канец дажджу. Раздзелі цёмныя хмары, сьвятлела паветра, а за момант паказвалася сонца і пачынала люстраваць бліскаўкамі паверхню набраклае зямлі. На ўскос нябеснага выгіну клалася пярэстая вясёлка. Дзіцячай радасьці ня было канца! Хлапчукі брызгаліся рэшткамі гаварлівае вады зьбягаючых у раку раўчукоў, нібыта сьпяшаючыся спажыць з Божага дару зямліцы. Дрэвы і травы пілі й пілі, каб напіцца за ўсе сухія дзянькі ды надоўга наперад. Усё пераліваліся ў колерах яркага сьвятла і зыркае зяляніны. Сьвет быў напоўнены шматфарбнасьцяй і выдаваўся гэткім яркім, як ніколі пазьней. Цуда Божае тварылася на нашых вачох і давала дзіцячаму ўяўленьню безліч доказаў, што Божанька адгукаецца, калі Яго просім.

Ня думаў тады, не гадаў, што цяпер, амаль праз поўсотні гадоў, давядзецца пазнаць такое шчасьце, беспасярэдне ўбачыць і адчуць гэтак часта згадваную раку.

— І хіба-ж ужо ні цуда, што а́дно называнае ў дзяцінсцьве стаецца яваю на склоне жыцьця? — думаў і дзівіўся ўпотай Усевалад, адно адчуваючы, што нешта падобнае думаюць і адчуваюць іншыя, што панурыліся цяпер у свае ўспаміны і баяцца адно, каб нехта не скрануў іх з таго одуму.

Так незаўважна мінулі ў цемені колькі высокіх горных насыпаў. Ужо апоўначы раптам засьвяціліся ў далячыні агні вялікага места. Неўзабаве начны незнаёмы горад вітаў падарожных гулам машыннага руху, варухлівым натоўпам начных гулякаў. Неўзабаве гатэльныя службоўцы ў эўрапэйскіх гарнітурах, але з арабскімі алівавымі ад загару тварамі прымалі і разьмяркоўвалі прыбылых. Чулася нязвычайная, незнаёмая гаворка, шмат было беганіны і гармідару. Нарэшце ўсё ўспакоілася. Кажнага чакала ў пакоях стомлівая кароткая, адылі горача-удушлівая паўднёвая ноч. Ад узрушэньня вочы доўга не зьліпаліся. Аднак стома даканала свайго. Ніхто гэтак і не пабачыў, як золак прышоў на зьмену кароткай начы, а ўсьлед за ім пачулася звыклае для ўсходу муэдзінавая перад-ранішняя песьня-заклік да магамэтанаў, каб дбалі пра Бога. Кажны засынаў, трызьнячы пра прашлы дзень.

*(Працяг будзе)*

*Ціт Бадзяка*

# Праўда ці хлусьня?

*(Пачатак у папярэднім нумары)*

II

Мы ўжо бачылі, як нязгоднай з праўдай аказалася «Праўда пра Хрыста» атэіста А. Краснова. Цяпер мы займёмся далей тымі праўдамі хрысьціянскай веры, якія ён перакручвае, як відаць, не задаўшы сабе труду пазнаёміцца з хрысьціянствам, з якім ён бярэцца змагацца. Ён піша:

«Ён (Ісус Хрыстос) — мудры і міласэрны — прыйшоў у сьвет, каб выратаваць людзей — выбавіць іх ад грахоў і пакут. Для веручых, відаць, астаецца загадкай, перад кім павінен быў выкупіць грахі Хрыстос, калі Ён сам зьяўляецца ўсемагутным Богам? І зусім ужо незразумела, каму спатрэбіліся пакуты, а затым і сьмерць Сына самога Бога? Варта-ж было Богу-Бацьку толькі сказаць: ‚Ды будзе'! — як усё збылося-б па Яго загаду і на зямлі зноў настаці-б райскія дні».

Як бачым, наш крытык уважае, што для хрысьціян справа грэху і адкупленьня ад яго зьяўляецца «загадкай», а пасьля й «зусім ужо незразумелым пытаньнем». Ці аднак-жа ўсё гэта праўда?

Ці праўда, што «для веручых астаецца загадка, перад кім павінен быў выкупіць грахі Хрыстос?» — Красноў не дае ніякіх доказаў; ён толькі навучае, як «маючы ўладу». Пэўне-ж ігнаранцыя вылазіць у яго з кожнага амаль слова і ня ёсьць яшчэ доказам. — А як верацъ у сапраўднасьці хрысьціяне? Ці вера тут не вымагае ад іх прыняцьця за праўду чагосьці «загадачнага», супраць чаго людзкі розум меў-бы права бунтавацца? Каб адказаць на гэтыя пытаньні, ёсьць толькі адзін, вельмі просты спосаб: трэба знаць, што кажуць аб гэтым самі хрысьціяне.

На нашае шчасьце праўда аб адкупленьні людзей ад грэху была добра зразумелай ўжо ад самага пачатку для ўсіх хрысьціян, дык цяпер нам досьць будзе спытаць, напрыклад, адну толькі Каталіцкую Царкву, каб можна было гаварыць аб тым, як разумеюць гэту праўду ўсе хрысьціяне.

Калі йдзе аб Каталіцкую Царкву, то яна мае ня толькі найлепш ад усіх апрацаваную Сотэрыёлёгію, (навуку аб Збавіцелю), але і ясныя кароткія выясьненьні ўсіх багаслоўскіх навук у сваіх катахізмоўках. Бяром з іх найболей аўтарытэтную: «Каталіцкі Катахізм» кардынала Пятра Гаспарры. Там чытаем на бачыне 116:

Пытаньне 99: — На чым палегае адкупленьне, якое выканаў Ісус Хрыстос?

Адказ: — Адкупленьне, якое выканаў Ісус Хрыстос, палегае на тым, што Ён з надмерна вялікае любасьці да нас людзей, выслужыў нам апраўданьне сваей найсьвяцейшай пакутай і сьмерцяй на дрэве крыжа і за нас паправіў нашую несправядлівасьць адносна Бога Айца. — (Трыдэнтскі Сабор, сэсія VI, раздз. 7).

Пытаньне 100: — Ці Ісус Хрыстос пакутаваў і памёр як Бог ці як чалавек?

Адказ: — Ісус Хрыстос пакутаваў і памёр як чалавек, бо Бог ня можа ані пакутаваць, ані памерці. Аднак дзеля таго, што Яго Асоба была Богам, ўчалавечыўся, дык самое гэта ўчалавечаньне і кожная, нават найменшая пакута за нас мела бясконцую вартасьць.

Пытаньне 101: — Чаму Ісус Хрыстос захацеў паддацца гэткай цяжкой і ганебнай пакуце і прыняць сьмерць?

Адказ: — . . . каб якнайпаўней адказаць на вымаганьне Божае справядлівасьці, як найясьней паказаць людзям сваю любоў да іх, разбудзіць у нас большую ненавісьць да грэху і большую адвагу ў прыкрасьцях і жыцьцёвых бедах.

Пытаньне 102: — За каго пакутаваў і памёр Хрыстос?

Адказ: — За ўсіх бяз вынятку людзей.

Пытаньне 103: — Значыць, усе людзі будуць збаўлены?

Адказ: — Ня ўсе, а толькі тыя, каторыя захочуць скарыстаць са спосабаў устаноўленых Збавіцелям, каб праз іх людзі маглі атрымоўліваць заслугі Ягонае пакуты і сьмерці. —

*

Пэўне-ж гэта толькі вельмі кароткі адказ на найважнейшыя пытаньні. Калі-б пасьля каталіку штоколечы выдавалася-б загадкай, ён можа запытацца ў кожнага сьвятара. А сьвятары маюць яшчэ абавязак знаць багаслоўе, каб даць адказ на ўсякае «чаму?». Бо трэба ведаць і тое, што адкупленьне ёсьць тайнай веры, толькі загадка гэтае тайны ёсьць зусім не там і ня ў тым, дзе і ў чым хацелі-б бачыць яе атэісты, а толькі ў слабасьці нашага розуму, каб пазнаць усё — усю бяздонную глыбіню Божае рэчаіснасьці. Каб убачыць, якія адказы дае багаслоўе, возьмем дзеля прыкладу пару цікавейшых пытаньняў:

1) Як пагадзіць з Божай справядлівасьцяй тое, што Бог карае нявіннага Свайго Сына за чужыя правіны? Саграшылі людзі, значыць, паводле парадку, трэ было-б людзей і караць за іхныя злачынствы, а не Сына, які прытым быў паслушны «аж да сьмерці на крыжы».

Адказ: — Бог Айцец ніколі й ня думаў караць Свайго Сына! Ён толькі пазволіў Яму, або лепш, згадзіўся на тое, каб Сам Ягоны Сын пазволіў людзям зрабіць з Ім усё, што толькі захочуць. Гэтак трэба разумець словы: «Так Бог палюбіў сьвет, што Сына Свайго даў, каб той, хто ў Яго верыць, ня згінуў, але меў вечнае жыцьцё».

Сын Божы, любячы людзей ня менш ад Айца, пазволіў людзям замучыць Сябе на сьмерць, а пасьля сказаў Айцу: — «Калі справядлівасьць вымагае, каб злачынства было пакарана, хай мая пакута і сьмерць ня будуць змарнаваны. Прыймі іх як адбытую кару за людзей, якім яна справядліва належыцца».

Айцец, Які нічога ня можа адказаць Сыну, раз — па справядлівасьці, а другое — Ён любіць Свайго Сына, калі бачыць, што ані пакута, ані сьмерць не перамаглі ягонай любасьці да людзей, згаджаецца на гэтакую замену. Такім чынам пакута і сьмерць, або інакш — Кроў Хрыста, якую людзі пралілі, зьявілася той цаной, за якую Сын Божы —выкупіў людзей ад належнае ім кары — таму гэта, што Бог ёсьць справядлівы! А што Бог ёсьць справядлівы, аб гэтым якраз і сьведчыць Адкупленьне. Пакута і сьмерць Хрыста — Божага Сына былі зусім дабрахвотнымі і ня мелі-б ніякага сэнсу, каб Божая справядлівасьць не дамагалася кары за людзкія грахі. Адкупленьне паказвае, што Божая любоў і дабрата ня ёсьць слабасьцяй, як часам бывае ў людзей, але што Бог як узнагараджае за дабро, так і карае за зло.

2) Як пагадзіць Божую дабрату са справядлівасьцяй?

Ці добры чалавек ня будзе сам шукаць помсты за сваю крыўду на сваіх ворагах?

Добрым сапраўды можна было-б назваць хіба толькі таго, хто нават за зло адплачвае дабром. Як то кажуць: «Хто ў цябе каменям, ты ў яго — хлебам!» — Але ці ёсьць такія людзі? Ці-ж сам Хрыстос не сказаў: «Ніхто ня ёсьць добрым, толькі адзін Бог». Аднак сам Бог даходзіць сваіх правоў. Як тады трэба разумець Божую дабрату?

Адказ: — Сама справядлівасьць пэўне-ж яшчэ ня ёсьць дабратой, але ня ёсьць і злом,

а ўжо ёсьць дабром. Таму справядлівасьць можна быць у Богу, Які ёсьць чыстым дабром без найменшай дамешкі зла. І больш яшчэ: у Богу ёсьць абавязкава ўсялякае дабро ведамае нам, бо ўсё толькі ад Яго бярэ свой пачатак. — «Той, хто стварыў вока, ці-ж сам не бачыць?» Каб у Бога ня было дабраты, то і мы пра яе нічога ня ведалі-б.

А чэму мы ведаем зло, хоць яго ў Бога няма й ня можа быць? — Вельмі проста: Таму, што зло — гэта недахоп дабра. Зло само ў сабе ня існуе, як дзірка, якая можа існаваць толькі ў масьце, ці ў кішэні. Зло зьявілася толькі ў створаным сьвеце, бо нават і Бог ня можа тварыць інакш, як пад мерай, пад вагой і лікам. Калі Бог захацеў стварыць чалавека, дык добра ведаў, што чалавек можа захацець зла, якога Бог ня хоча. Маючы розум, чалавек не захоча кіравацца ім, а тады скуткі гэтага будуць горшыя, чым тады, калі хто, маючы вочы, захоча хадзіць заплюснуўшы іх . . .

Што было рабіць? У поўнай згодзе (нават з нашым людзкім розумам) Бог зрабіў зло такім, што чалавеку яго не варта было рабіць, нават на спробу. А ў Бібліі гэтая забарона выражана ў форме забароны есьці з «дрэва пазнаньня дабра і зла». Але што было рабіць з дурным, які ўважае сябе за разумнейшага ад Бога?

Аднак Бог паступае зусім інакш, так што і зразумець Яго было-б немагчыма, калі-б Ён Сам не паказаў людзям сваей дабраты, пасылаючы на сьвет свайго Сына, Якому захацелася стацца чалавекам, каб памагчы людзям. Як бачым, Бог «абражаецца» зусім інакш, чым людзі: калі йдзе ім памагаць, добра ведае, як людзі прымуць гэтую помач і чым адплацяць за яе!

«Пасылаючы» Свайго Сына, Бог-Айцец ня прыказвае Яму (як гэта мы ужо бачылі), а толькі згаджаецца, каб Сын паказаў людзям тую ахвярную і безкарысную любоў, якая ў Тройцы Божых Асобаў ёсьць крыніцай безграмічнага шчасьця, а якая дзеля людзей ёсьць адзіным лякарствам на ўсе іхнія пакуты. — «Каб убачыў сьвет, што Я люблю Айца — кажа Хрыстос — Я усё раблю так, як загадаў Мне Айцец». «Я прынёс на зямлю агонь і хачу толькі аднаго, — каб ён разгарэўся». Гэтым агнём ёсьць новая Ягоная запаведзь: «Запаведзь новую даю вам, каб вы так любілі адзін другога, як Я палюбіў вас». Значыць, ужо ня так, як было да ягонага прыходу на сьвет у Старым Запавеце: «як сябе самога» . . . Бо Сын Божы, як чалавек, палюбіў людзей б о л ь ш, чым Сябе самога, бо аж да поўнага зьнішчэньня Сябе! Бо і апошняя граніца, да якой можа дайсьці любоў, гэта і ёсьць ахвяра з жыцьця. Тут нельга ўжо прылажыць старую мерку — «як самога сябе» . . .

Калі-ж Айцец дапусьціў на Свайго Сына аж гэткую цяжкую пакуту за людзкія грахі, то трэ заўважыць, што не Айцец прыдумаў для Яго ланцугі, пугі і бічы, цярновы вянок і крыж, а зрабілі гэта людзі, якія баяліся граху, (а мо' нат і ня думалі пра тое?), што яны зьяўляюцца нявольнікамі граху, як гэта выразна казаў ім Хрыстос. — А Бог толькі хацеў паказаць людзям, ч ы м ёсьць г р э х і да чаго ён людзей даводзіць. «Не плачце нада Мной — казаў Сын Божы, нясучы крыж — а плачце над сабой і над сваімі дзецьмі. Бо калі на зялёным дрэве гэта выробляюць, то што будзе на сухім?» — Гэта значыць, «Калі Мне за дабро адплачваюць людзі гэтак, то якую-ж адплату за зло яны прыдумаюць сваім ворагам? А хто-ж з вас не мае ворагаў? А калі вы іх маеце досыць, дык вашыя дзеці будуць мець іх яшчэ больш».

З усяго гэтага бачым, што Бог ня толькі нідзе не даходзіць сваіх правоў, але і не гаворыць пра іх. Ён толькі пазваляў бязбожным людзям рабіць з Сабой усё, што ім спадабаецца. Ня мог толькі, будучы добрым, зрабіць, каб зло ня было злом, дый каб бічы і калючкі або раны ад цьвікоў не балелі . . . А чалавеку так часта хацелася-б біць другіх, а самому ня быць бітым, або прычыняць боль другім, а самому каб не балела.

І гэтага добры Бог ня можа зрабіць . . . «А ты ня верыш Мне? як-бы пытаўся Хрыстос». Дык паспрабуй — пераканайся! Ня буду — Я дзеля тваей няверы — адказвацца ад свайго пляну. Я хачу падзяліцца з людзьмі маім уласным шчасьцем. А дзеля таго, каб чалавек мог атрымаць шчасьце больш, чым жывёліна-скаціна якой чалавеку часамі хацелася-б быць, Я даў чалавеку розум і вольную волю. А, даўшы раз, ня буду Я адбіраць волі за кожным разам, калі Я (па вашаму) павінен быў-бы тасаваць прымус. Ці-ж вы ня ведаеце, што чалавека нельга ашчасьлівіць супраць ягонай волі? І, ня будучы вольным, ён не патрапіў-бы нават пазнаць тое шчасьце, якое недаступна неразумнай і бязвольнай жывёле . . .»

Дык што тут, (пытаемся мы Краснова і іншых атэістаў), «загадачнае», або «зусім ужо незразумелае» кожнаму, хто не паляніўся даведацца аб гэтым?

(Далей будзе)

# З царкоўнага жыцьця

ПАВАЛ VI-ы У АФРЫЦЫ. Самай паважнай падзеяй апошнай пары было падарожжа Папы Паўла VI-га ў Афрыку, у горад Кампаля (Уганда). Мэта падарожжа: пасьвянціць аўтар 22-х афрыканскіх мучанікаў і пазнаць бліжэй умовы царкоўнага жыцьця на чорным кантынэнце. Прабываў там Папа тры дні — 31. VII, 1. і 2. VIII. На лётнішчы спатыкаў Папу прэзыдэнт Уганды Оботэ і 4-ры прэзыдэнты суседніх рэспублікаў, а таксама шмат прадстаўнікоў урадаў, духавенства, каталіцкія біскупы ўсяе Афрыкі з 5-ю кардыналамі на чале. Маса народу зыйшлася, нават з далёкіх аколіцаў — да 300 кілям., якія прыбывалі пераважна пехатою і віталі Папу з жывой радасьцяй — з сваей афрыканскай музыкай, з сваімі песьнямі, з воплескамі.

Меў Павал VI-ы проста надмерную працу: спатканьні з урадоўцамі, з Біскупамі, з духавенствам Уганды і бліжэйшых краінаў. Адправіў урачыстую Літургію на пляцы за горадам, меў калькнаццаць прамоваў, учасьнічаў у агульным Зьезьдзе біскупаў Афрыкі. Кансэкраваў 12 новых чорных біскупаў і ў прамове да іх сказаў:

«Вы маеце прычыніцца да стварэньня новай афрыканскай цывілізацыі, мусіце шукаць і клікаць новых хрысьціянаў. Вось якая вашая вялікая задача, што спаткаецца з разнаякімі цяжкасьцямі.

Прадказаў Папа тры галоўныя этапы Царквы ў Афрыцы:

1) Эвангельле або пасеў Божага Слова,

2) Фармаваньне свайго сьвятарства і сваіх законаў (манастыроў),

3) Разьвіцьцё народнага характару, гэта значыць укараненьне Царквы ў афрыканскую культуру і цывілізацыю. Так Царква, абапёртая на натуральным грунце афрыканскай душы, станецца ня толькі сільнай і самастойнай, але і будзе здольнай несьці хрысьціянскую веру іншым кантынэнтам».

*

У парляманце Уганды Папа прамовіў да прадстаўнікоў народу: Адказаў на пытаньне «Чаго Катал. Царква ад Афрыкі жадае і што ёй дае?»

Хоча даць ей хрысьціянскую в е р у з усімі яе вартасьцямі, якія ўзбагачаюць людзкую культуру і памагаюць чалавеку ў яго духоўным і дачасным прагрэсе.

Царква нічога ня хоча забіраць ад народаў, але хоча яшчэ палепшыць усё добрае, што яны маюць і хоча прышчапіць іхнай мове і культуры адвечныя Божыя Праўды.

Царква змагаецца з усялякім каляніялізмам і заўсёды стаіць на баку права і справядлівасьці, чаго доказам ёсьць апошнія энцыклікі Папы, а таксама праца Царквы ў Афрыцы.

А дамагаецца Царква толькі свабоды для рэлігійнага культу і для харытатыўнай працы. —

Прамову Папы слухачы абдарылі моцнымі і гучнымі воплескамі.

Пасьля Папа меў гутарку з некаторымі дэлегатамі, асабліва паважная была з прадстаўнікамі Нігерыі і Біяфры: на жаль, гэтая не дала памыснага рэзультату, толькі прыгатавала грунт да далейшай памыснай размовы, каб аблягчыць давоз лекарскіх сродкаў.

2-га жніўня Папа пасьвяціў аўтар 22-х афрыканскіх мучанікаў — галоўна дзеля гэтага сюды прыехаў. Наведаў таксама і санктуарыюм англіканскіх мучанікаў, што былі адначасна забітыя паганцамі. Англікане вельмі прыхільна віталі Папу ў сябе з сваім біскупам Сабіті.

І вельмі важнай была справа спатканьня з 50 біскупамі і 5-ю кардыналамі афрыканцамі, якія сабраліся ў Кампалю на Зьезд, каб абмеркаваць патрэбы Царквы ў Афрыцы. У прамове да іх Павал VI-ы быў вельмі ўсхваляваны глыбокім пачуцьцём, — іх дружбаю і лучнасьцяй, што прыводзіла на думку словы Апостала Паўла: «Адно цела, адзін дух і пакліканыя да аднае надзеі .. Адзін Госпад, адна вера, адно хрышчэньне. Адзін Бог і Айцец усіх, які над усімі, і праз усіх і у-ва ўсіх нас». (Эфэз. 4, 4 — 6).

Далей Папа казаў,: «Царква ў Афрыцы мае быць ані эўрапэйскай, ані лацінскай ці ўсходняй, але перад усім каталіцкай і ўсё-ж ў мове, абычаях, у музыцы і сваіх звычаях стаць афрыканскай, ніколі не зьмяняючы праўдаў веры. «Вы можаце і мусіце мець афрыканскае хрысьціянства».

Біскупы, як адзначыў Папа, знайшліся ў абліччы вялізнае задачы — зрабіць Царкву самастойнай — праз выхаваньне свайго клеру — праводзіць місыйную працу і лагодзіць унутраныя і міжнародныя сэпаратызмы. І ў гэтай працы Папа хоча, колькі зможа, памагаць ім і багаславіць.

Прытым Папа пераказаў — з ахвяраў іншых каталікоў — 200 тысяч даляраў. на «Фонд людзкога разьвіцьця Афрыкі» і на побудову двух шпіталяў: у Нігерыі — для дзяцей і ў Біяфры — для ахвяраў вайны.

Вярнуўся Павал VI ў Рым позным вечарам, вельмі змучаны, але здаволены: гэта была ўжо 8-ае ягонае падарожжа, якое прайшло надта памысна.

*

ВАТЫКАН. Нядаўна Папа зацьвердзіў новую форму сьв. Літургіі лацінскага абраду, тасоўна да вымогаў апошняга Сабору: некаторыя цэрэмоніі адыйшлі, як менш адпаведныя і пазьней уведзеныя. Затое дадзена большая ўвага чытань-

ню Сьв. Пісьма, Старога і Новага Запавету, а ўвесь цыкль разложаны на тры гады. Такім чынам Літургія сталася больш упрошчаная і зьліжаная да старадаўнай і больш зразумелая для народу, асабліва дзеля народнай мовы. І дасьць Бог, што і беларусы будуць мець сьв. Літургію ў сваёй роднай мове!

Галоўная мэта рэформы была тая, каб лепш выразіць Хрыстовую ахвяру і прыблізіць народ да аўтара і да Самога Збавіцеля. Пры абнове Літургіі працавала блізка 1000 спэцыялістаў у працягу 4-х гадоў!..

*

МАЛІТВА ПРЫВАТНАЯ. Апрача малітвы *публічай* яшчэ ёсьць у будняй практыцы малітва *індывідуальная* і Літургія ціхая. У прамове да людзей у Кастэль Гандольфо (летняя дача) Павал VI-ы гаварыў аб вялікай патрэбе і важнасьці малітвы прыватнай, якой цяпер людзі ня вельмі пільнуюцца. Наагул людзкое жыцьцё сталася вельмі рухавае, неспакойнае і вонкавае: такое ўжо пайшло выхаваньне і стварыўся настрой, які стварае людзей інтарэсу, бізнэсу, індыфэрэнтных рэлігіі, ды матэр'ялістаў. Яшчэ прызнаюць рэлігію фармальна, толькі вонкавае набажэнства. А тымчасам індывідуальная малітва абсалютна неабходная, бо яна зьвязвае чалавека з Богам і ажыўляе ягоны дух, а сама Літургія ня можа заступіць малітвы асабістай.

СПРАВА АБНОВЫ ЦАРКВЫ. Папа ўсьцяж прыпамінае, што патрэбна абнова Царквы?

Царква хоча і стараецца ўвясьці зьмены, але яны не павінны быць са шкодай і разбурэньнем традыцыі. «Нельга рабіць зьмены для самой зьмены: абнова павінна весьці да лепшага хрысьціянства. Па Саборы Царква ўжо ўвяла некаторыя зьмены і болей іх увядзе, каб абнавіцца... Ня ў гэтым справа, каб даць новае хрысьціянства, але каб даць аўтэнтычнае хрысьціянства для новых часаў».

У такім сэнсе абнова Царквы мае весьці «да сарваньня з грахом, да зьмены жыцьця і каб паглыбіць пазнаньне хрысьціянства».

*

НАВУКА І РЭЛІГІЯ. У сувязі з пасьпяховым падарожжам астранаўтаў у Апольлё 11 на Месяц Папа казаў, што цяперашняя навука дае многа нагоды моладзі для пазытыўнай працы. І зьяўляецца гэтулькі сацыяльных праблемаў, чакаючых на рашэньне, што гэта можа быць асягнена толькі працай старога і новага пакаленьня. На жаль, кажа Папа, цяперашняя моладзь паддалася зморанасьці! І асягненьні навукі зусім не становяць перашкоды для веры ў Бога. Царква жадае посьпеху навукі, бо пазнаньне законаў прыроды прыносіць карысьці і навуцы і рэлігіі. Катал. Царква ня толькі не баіцца конфронтацыі з цудоўным багацьцем сучаснай навукі, але яе жадае.




*Базыліка Сьвятога Пятра у часе II-га Ватыканскага Сабору*

Патрэба Бога ёсьць згодная з прыродай чалавека: чым больш робіцца прагрэс, тым больш адчуваецца патрэба Бога.

*

ЮГАСЛАВІЯ. Урадовая газэта «БОРБА» алярмуе, што рэлігія мае ўсё больш уплыву на грамадзкае жыцьцё. Там наагул пануе большая свабода, чымсь у іншых сацыялістычных краінах. А каталікі дамагаюцца таго самага права навучаньня рэлігіі ў школах, якое маюць атэісты для сваей навукі. І такжа ў радыё і тэлебачаньні. Катал. часапіс «Гляс Консіля» дарос да 11-ці мільёнаў! А «Борба» наракае на моладзь, што няруплівa змагаецца з Царквою. І Царква ўсё мацней уцягвае моладзь да веры ў Бога. — *Як бачым, дрэнна для камунізму і змагацца з рэлігіяй і даваць ёй свабоду.*

*

ЧЭХА-СЛАВАЧЧЫНА. Тут Катал. Царква перажывае новы націск на рэлігію: свабода рэлігіі, якую здабыла Царква за часоў Дубчэка, штораз больш уціскаюць. Перамовы з Ватыканам зацягваюцца. Міністар культуры Каляска і мін веравызнаньняў Др. Кадлецова звольнены, а назначаны на іх месца людзі няпрыхільныя Царкве.

*

БЭЛЬГІЯ. У некаторых краінах, як Бэльгія, Францыя, Нямеччына і інш. ўваходзіць звычай прыймаць Сьвятое Прычасьце з рукі: сьвятар кладзе частку Хрыстовага Цела на руку верніка, а ён сам яго спажывае. Гэта ёсьць узнаўленьне даўнейшага звычаю ў Царкве. Цяпер гэты звычай аднаўляецца паволі і толькі са згодай мясцовага біскупа.

*

БАВАРЫЯ. Набрала разгалосу справа біскупа М. Дэфрэггера, суфрагана ў Мюнхэне. Даказана, што ён падчас вайны, будучы ў войску капітанам, атрымаў ад вайсковай улады загад зьлiквідаваць вёску Філлето ў Італіі, бо там партызаны застрэлілі 4-х немцаў. Дэфрэггер рабіў, што мог, каб паменшыць лік ахвяраў гітлерызму, аднак перадаў свайму аддзелу ваенны загад, каб расстраляць 17 чалавек італьянцаў.

Пасьля вайны Дэфрэггер уступіў у дух. сэмінарыю і стаў сьвятаром, а пасьля і біскупам. Італьянцы дамагаюцца суду і кары. — Аказалася, што Ватыкан нічога ня ведаў аб ранейшым жыцьці Дэфрэггера. Гэты біскуп публічна перапрасіў радню згінуўшых італьянцаў і даказвае, што нічога ня мог зрабіць больш. Ён бараніў перад уладамі італьянцаў і фактычна частку яму ўдалося ацаліць. Цяпер прасіў свайго кардынала, каб звольніў яго з становішча, але тымчасам кардынал Дэпфнэр не адпускае свайго памацніка да поўнага высьненьня справы. Ведама, што ворагі Царквы стараюцца панізіць рэлігію. Пабачым, чым справа кончыцца . . .

*

ФРАНЦЫЯ. Кардынал у Парыжы Марті ўвёў сталую пэнсію для духавенства ў сваёй дыяцэзіі: усе даходы сьвятары будуць здаваць у агульную касу і кожны атрымае роўную іншым частку для памяркоўнага пражыцьця.

*

АФРЫКА — МОЗАМБІК. У горадзе Мэкуля *каталікі і магамэтане пабудавалі супольную* сьвятыню. Пры пасьвячэньні біскуп падкрэсьліў факт, што будынак будзе служыць і каталікам і магамэтанам. «У пятніцу, казаў ён, будуць прыходзіць маліцца нашыя браты музульмане да Бога-Алляха, які ёсьць Богам Абрагама, Ізаака і Якуба, іхніх продкаў, а ў нядзелю будуць тут пакланяцца па хрысьціянску каталікі таму самаму Богу — праз Ісуса Хрыста, які ёсьць Сынам Божым. Такім спосабам будуць маліцца адны і другія супольнаму Богу, што прычыніцца да братэрства і супакою, чаго мы усе так вельмі жадаем».

Пасьля Літургіі біскуп даў усім багаславенства, кажучы па арабску: «Бог ёсьць Вялікі!» Усе каталікі асталіся і на магамэтанскія малітвы.

*

БРАЗЫЛІЯ. Тут найбольшы лік каталікоў — 90 мільёнаў, аднак нямала тут і клопатаў. На такі вялізны лік вернікаў ёсьць толькі 13 тысяч сьвятароў — адзін на 8 тысяч, калі нармальна павінен быць адзін на адну тысячу людзей! Дый пры гэтым недаборы яшчэ некаторыя маладыя сьвятары адступаюць ад паслушэнства Царкве з браку належнай фармацыі і вялізных цяжкасьцяў сацыяльных. Нядаўна на Зьезд ўсіх біскупаў Бразыліі прыбыў дэлегат Ватыкану кардынал Фэлічы.

*

ІРЛЯНДЫЯ. Бацька чатырох законніцаў пасьвячаны і прыняў сьвятарства, Міхал О'Бріен: пасьля сьмерці жонкі пастанавіў вучыцца на сьвятара. На студыі трэ было аддаць пяць гадоў, а цяпер прызнаны здатным і пасьвячаны — у сакавіку гэтага году. Урачыстасьць адбылася ў Лядывэлль у Англіі: «малады» сьвятар мае 64 гады. На прыміцыю прыбылі ўсе чатыры дачкі і сястра, якая ёсьць таксама законніцай і два сыны, але гэтыя асталіся сьвецкімі людзьмі.

# З беларускага жыцьця

## НОВЫ АДРАС УЛАДЫКІ ЧАСЛАВА СІПОВІЧА

Дастойны Уладыка Часлаў Сіповіч, Апостальскі Візытатар для беларусаў каталікоў, вярнуўся ў жніўені г. г. ў Лёндан пасьля шасьцігадовага прабываньня ў Рыме, дзе ён займаў становішча Галоўнага Ігумена Закону Айцоў Марыянаў. Уладыка будзе жыць у Марыян Гаўз, куды трэба накіроўваць да яго ўсю карэспандэнцыю.

## АЙЦЕЦ ТАМАШ ПАДЗЯВА Ў ЛЁНДАНЕ

Разам з Уладыкам Чаславам прыехаў у Лёндан а. Тамаш Падзява, якому толькі нядаўна ўдалося выехаць з Польшчы.

Айцец Тамаш зьяўляецца сябрам Закону Айцоў Марыянаў. Перад вайною ён уступіў у беларускі марыянскі манастыр у Друі. Доўгі час ён працаваў місіянэрем у Манджурыі разам з а. Язэпам Гэрмановічам. У 1948 г. яны абодва былі арыштаваныя і правялі сем гадоў у савецкіх канцэнтрацыйных лагерах у Сібіры.

## ПОСЬПЕХІ ВУЧНЯЎ ШКОЛЫ СВ. КІРЫЛА

Два вучні Школы св. Кірыла Тураўскага ў Лёндане — Алесь Міхалюк і Марк Саўка-Міхальскі — здалі ў гэтым годзе матуральныя іспыты з беларускай мовы на Лёнданскім Унівэрсытэце. Абодва яны здавалі на год раней звычайнага часу і адзін з іх, Марк, атрымаў найвышэйшую ацэнку.

Ф. Сенькоўскі, які наведваў школу сьв. Кірыла ад самага яе пачатку, скончыў пасьпяхова ў гэтым годзе сярэднюю асьвету і атрымаў месца на Лёнданскім Унівэрсытэце, дзе мае намер студыяваць матэматыку, фізыку і статыстыку. Ён надалей жадае жыць у Школе св. Кірыла. Дай Бог, каб гэта быў пачатак новага беларускага студэнцкага цэнтру!

Другі вучань Школы св. Кірыла, Алесь Лошка, таксама пасьпяхова скончыў сярэднюю асьвету і быў пакліканы на службу ў нямецкую армію.

## ВУЧНЁЎСКІЯ КАНІКУЛЫ

Група вучняў Школы св. Кірыла разам з гаспадыняй, сп. Аленай Міхалюк, правялі тры тыдні сваіх летніх канікулаў у Сомэрсэт у заходняй Англіі у маёнтку сп. Обэрона Гэрбэрта, старшыні Ангельска-Беларускага Таварыства. Гэта ўжо трэці год падрад як сп. Гэрбэрт ахвяруе беларускім вучням канікулы ў сваім маёнтку.



*Гаспадары й госьці. Вучні Школы Сьв. Кірыла на канікулах. Сп. О. Гэрбэрт (чацьвёрты злева) і ягоная Маці (другая справа)*



*Экскурсія у лясы і горы*



*Будзе сьвежая рыбка на вячэру!*

## З лістоў у рэдакцыю

ПАВАЖАНЫ АЙЦЭЦ РЭДАКТАР!

Дазвольце, каліласка, і мне, як чытачу, сказаць некалька слоў на тэму «3-яе вайны і канца сьвету»! Шмат ужо асобаў выказала свае думкі: адны хваляць і заахвочваюць пісаць далей, а другія аднесьліся адмоўна. На маю думку найбольш ярка высказаўся адзін з «Вялікалідцьвіноў», д-р Я. Станкевіч. Ён хіба забыўся, што «Божым Шляхам» — гэта часапіс рэлігійны і ў гэтым духу былі пісаныя разважаньні, а ўсе думкі адносіліся ня толькі да беларусаў, але да ўсяго сьвету.

Калі-б сапраўды ўсе людзі ўладжваліся паводле законаў Хрыста, дык ня было-б і пагрозы канца сьвету. Аднак шмат хто кажа, што гэта немагчыма, дык тады-ж і няма ратунку ад атамнай небясьпекі... Тут дык справа пляцецца і трудна што зразумець..

Вельмі слушны заклік д-р Станкевіча, каб мы, беларусы, станоўка і ўсімі сіламі станавіліся ў абароне свайго народу, якому пагражае сьмерць ад расейскай камуны. Але гэта ўжо іншая справа і мала мае супольнага з заклікам да малітваў і да веры ў Бога, як пішацца ў 3--яй вайне.

Д-р Станкевіч робіць выснаў: «Нашто нам той сьвет, у якім не стала-б нашага беларускага народу?» А я дадам: «Нашто нам, хаця-бы і вольная Беларусь, калі-бы ў ёй не стала беларускага народу, зьнішчанага гэтай ці іншай бомбаю? Дый няшмат нас зьмесьціцца ў амэрыканскіх супраць-атамных сховішчах, каб перапрываць атамную масакру.

Са шчыраю падзякаю за артыкулы «3-яя вайна і канец сьвету»! Гэта — найперш; а і наагул за ўсе вашыя намаганьні для дабра ўсяго людзтва і нашага беларускага народу.

З глыбокаю пашанаю

*Б. Нагорны*

Францыя 1. IX. 1969.

---

## ДУМКІ З ПРАЧЫТАНЫХ КНІЖАК

Аграфа: Сказы Ісуса Хрыста, якія не ўвайшлі ў Эвангельле, але запісаныя ў Апосталаў ці ў Айцоў Сьв. Царквы.

«Шчасьлівейшы, хто дае, чым той, хто атрымлівае». (Апост. Дзеі 20, 35).

«Вы старайцеся ўзрастаць з малога, а з большага станавіцца меншым».

«Хто жадае дасягнуць Мяне і атрымаць маё валадарства, павінен дайсьці да Мяне праз жаль і цярпеньне». (З лісту сьв. Барнабы).

«Турбуйцеся аб веры і надзеі, з якіх родзіцца любоў да Бога і людзей, што дае вечнае жыцьцё». (У сьв Макара Вял.).

«Дзе хто адзін, там і Я ёсьць з ім». (У сьв. Яфрэма Сырыйскага).

«Прасіце вялікага і малое прыложыцца вам: прасіце нябеснага і прыложыцца вам зямное».

«Любіце тых, што вас ненавідзяць і ня будзеце мець ворага».

«Каб вы нат былі сабраныя на лоне Маім, але ня выпаўнялі волі Маей, дык Я адкіну вас».·(З навукі 12 Апост.).

«Чаму зьнеслаўляецца імя Маё? Таму, што вы ня робіце таго, чаго Я жадаю». (Сьв. Сотэр).

*

«Хто ёсьць Бог, якому мы павінны прыносіць нашыя жэртвы?

Той, хто дае жыцьцё; той, хто дае сілу; той, перад чыім загадам пакараюцца ўсе сьветлыя богі (анёлы?): перад чыім ценям ёсьць несьмяротнасьць.

«Хто ёсьць Бог, якому мы павінны прыносіць нашыя жэртвы?

Той, хто, дзякуючы сваей магутнасьці, ёсьць адзіным царом, дыханьнем сьвету і абуджэньнем яго; той, хто кіруе ўсім — чалавекам і жывёлай..

Той, чыю веліч выслаўляюць гэтыя сьнежныя горы і мора; той, хто запаліў сьвятло на небе і зрабіў цьвёрдай зямлю. Той, хто стварыў нябёсы, самыя вышэйшыя нябёсы. Той, на каго пазіраюць неба і зямля, умацаваныя ягонай воляю. Той, хто ёсьць адзіным Богам... (Гымн з Рыг-Вэды, з індускіх сьвяшэнных кнігаў).

---

СЯЛЯНКА пытае: — Што такое камунізм?

ПАРТЫЕЦ: — Гм... (Маўчыць).

СЯЛЯНКА выкрыквае: — А хто яго выдумаў — народ ці вучоныя? —

ПАРТЫЕЦ: — Сам народ! —

СЯЛЯНКА: — Я так і думала, што народ. Калі-бы вучоныя, дык яны спачатку выпрабавалі-бы яго на сабаках... —

# Для цікавасьці і навукі

Ну, нарэшце месяц здабыты! Першы чалавек, які паставіў нагу на месяцы, сказаў: «I am Arm-strong», значыць: «Я ёсьць моцны, пераважаючы, устойлівы, старанны, вытрывалы, энэргічны!».

Гаманілі, што першы будзе расеяц: праз доўгія гады і самахвальства Хрушчова, нават сама Амэрыка прызнавала пяршынство Саюзу ў паднябессі; а тымчасам цяпер савецкі «Люна 15» паказаў толькі перевагу Амэрыкі і сваю няздатнасьць, калі шпіёніў амэрыканцаў і зваліўся на месяц.

Цікава, якія выснавы выцягне навука з падарожы на месяц?

Некаторыя спадзяваліся, што прывязуць стуль мяшок магчыма залатога пылу; другія казалі, што магчыма загразнуць там у касьмічным пыле, які залягае на дзесяткі мэтраў на паверхні месяца? Іншыя гаманілі, што разаб'юцца на жалезным сьлізкім лёдзе і г. д.

Аж знайшлі там невялікую колькасьць чорнага вульканічнага пылу, што ляжыць на скалістай паверхні.

І ўсё-ж аказалася «зямля» (ці «месячына» або «люнаціна»?) на месяцы надта дарагая, бо каштавала Амэрыцы кожны грам у адзін мільён фунтаў стэрлінгаў!

Затое крытыкуюць у Эўропе, што Амэрыка дарма выкінула гэтакія грошы, бо карысьці з месяца — ніякае! Пустая паверхня і толькі таго...

Аднак знаўцы даказваюць, што карысьці для навукі прадбачуцца празьмерныя: зрэшта месяц ёсьць першы крок у бязьмежныя прасторы сонечнае сыстэмы, пачынаючы ад Марса. Але падарожжа на Марс запатрабуе ня менш 2-х гадоў часу.

---

# ПАВАЖНЫЯ ЖАРТЫ

## ОДА ДА МЕСЯЦА

I. Перад адкрыцьцём:

*Ад вякоў, ад старадаўных*
*Месяц быў цудоўны й слаўны!*

*Выглядаў ён роўны з сонцам*
*І загадкавы бясконца:*
*Такі мілы, ясны, чысты —*
*Серабрысты, залацісты!*

*Калі-ж ён такі прыгожы,*
*Думаў я, што там — быць можа —*
*Рай быў і прытулак Божы?..*
*Арханёлаў панаваньне,*
*Ўсіх Сьвятых супачываньне...*

II. Пасьля адкрыцьця:

*Далёт к' месяцу быў трудны!*
*Сам ён голы, пусты, нудны:*
*Там ні хмаркі, ні расінкі,*
*Ані траўкі, ні былінкі.*

*Ні вады, ані паветра —*
*Мёртвая, лядашча нетра:*
*Пыл адвечны сьпіць там ціха,*
*Скалы, кратары — ўсё ліха! —*

*Панаваньне вечнай сьмерці —*
*Могуць жыць там хіба... чэрці?*
*І там мусіць пекла будзе,*
*Калі Бог каго засудзе?..*

## ТРЫВОГА

*Вучань:*

— Ах, таварыш! ах, настаўнік!
Ты — такі рашучы спраўнік:
Што рабіць? ці нам капут? —
Нас Амэрыка загнала ў цёмны кут...

*Настаўнік:*

— Стой! Пляцеш ты тры-па-тры:
Ты мне ясна гавары.

*Вучань:*

— У нас месяц яны ўкралі:
Сваіх флагаў настаўлялі...

*Настаўнік:*

— Месяц — дрэнь:
Ня плачце, дзеці!
Ён — «луна». Нам *Ленін* сьвеціць:
Блішчыць ясна і бясконца —
Разоў дзесяць лепш як сонца!

*Вучань:*

— А буржуі, каб іх трасца!—
Яшчэ хочуць *Марс* украсьці...

*Настаўнік:*

— Глупства — Марс!
Бо ў нас ёсьць *Маркс*. —
*Марс* на небе ледзь відаць. —
А наш *Маркс* — ён як камэта,
Што на небе так-і-гэтак,
Як пачне хвастом віляць,
Дык аж зоркі ўсе дрыжаць!

## ЗВАРОТ ДА ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ

ШТО ЧУВАЦЬ —
— на Божым сьвеце —

У тэле, ў радыё, ў газэце?..
Людзі месяц аседлалі —
На ім вальсы танцавалі:
Я-ж усё праз тэлэ бачыў.

(«Луна-Спутнік» там сабачыў:
Ён пад нумарам пятнаццаць —
Тррах! — разьбіўся, трэ' прызнацца.)

Сьвет баяўся, сьвет маліўся,
Каб «Апольлё» не разьбіўся:
Астранаўты, народ сьмелы,
Ўсе вярнулісь жывы й цэлы.

*

Як з «Аполлё» людзі зьлезьлі,
Яны з месяца прывезьлі
Шмаг багацьця з той лагчыны —
Так названай «месячыны»:

Гарнец пылу, пуд каменьняў...
А цана ўсей гэнай дрэні,
Як пісала тэлеграма,
Мільён доляраў за грама!

Як казалі ў нас калісьці:
«Боляй славы, чым карысьці».

А, У НАС,
у беларусаў,
Ад усіх такіх пакусаў
І атрэсьціся ня можна:

Эмігрант наш асьцярожна
На гарэлку цэдзіць цэнты,
На табак кладзе працэнты. —
А на кніжку, на газэту
Хвігу дасьць да канца сьвету!

«Божым Шляхам»? — ані зблізку,
Каб даляр даць на падпіску! —
Скарэй даў-бы вырваць з губы
Тры здаровенькія зубы... —

Аж рэдактар думаў з жахам:
— Што рабіць мне з «Божым Шляхам»?
Ад даўгоў няма дзе дзецца —
Пайду з торбэмі, здаецца?...» —

— Мне гадкоў дзесяткаў восем,
А якраз паўзе ўжо восень. —
Пад званіцай з той бяды
Засьпяваю як дзяды:

— Часапіс мой, Бог з табой, —
«Са Сьвятымі упакой!!!» —

Лёндан, Верасень-Кастрычнік 1969
*Рэдактар Я. Г.*

---

## ЗЬМЕСТ



Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14